# ПЕРШАЯ СОТНЯ.

## I. Чатыры дзеянні ў межах 20. Прасцейшыя вылічэнні ў межах 100.

**(Паўтарэнне.)**

**1.** У хлопчыка было 2 манеты: адна ў 10 кап., другая ў 5 кап. Ён заплаціў за алоўкі 12 кап. Колькі грошай асталося ў хлопчыка?

**2.** У кніжцы было 20 старонак. Дзяўчынка прачытала ў першы дзень 7 старонак; у другі дзень 8 старонак; у трэці дзень астатняе. Колькі старонак прачытала дзяўчынка ў трэці дзень?

**3.** Вучань рашыў у адзін дзень 7 задач, а на другі дзень на 4 задачы больш. Колькі задач рашыў вучань за два дні?

**4.** Дзеці пасадзілі ў садзе маліны 12 кустоў, а парэчак на 5 кустоў менш. Колькі ўсяго ягадных кустоў пасадзілі ў садзе дзеці?

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **5.** | 14 + 5 | 18 − 6 | 9 + 6 | 11 − 3 | 13 − 7 |
| | 3 + 16 | 19 − 15 | 7 + 5 | 15 − 7 | 6 + 8 |
| | 11 + 9 | 20 − 4 | 3 + 8 | 14 − 9 | 12 − 9 |
| | 2 + 18 | 20 − 13 | 5 + 6 | 16 − 8 | 4 + 7 |

**6.** Мама купіла 3 *кг* цукру па 4 руб. за кілограм. Пасля пакупкі ў яе асталося 8 руб. Колькі грошай было ў мамы да пакупкі цукру?

**7.** Шкляр расходаваў па 2 лісты акеннага шкла на кожную з 7 рам; пасля гэтага ў яго асталося 3 лісты. Колькі лістоў шкла было ў шкляра спачатку?



**8.** Піянерскі атрад пастроіўся ў 4 рады па 4 чалавекі, ды 2 піянеры пайшлі ўперадзе атрада. Колькі ўсяго піянераў было ў атрадзе?

**9.** З кавалка тканіны пашылі 4 дзіцячыя сукенкі і дзве спадніцы. Колькі тканіны было ў кавалку, калі на кожную сукенку пайшло па 3 *м*, а на кожную спадніцу па 2 *м* тканіны?

| **10.** | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 2×3 | 3×2 | 4×2 | 5×2 | 6×3 |
| | 2×6 | 3×5 | 4×4 | 6×2 | 8×2 |
| | 2×8 | 3×4 | 4×1 | 5×3 | 9×2 |
| | 2×9 | 3×6 | 4×5 | 7×2 | 5×4 |

**11.** У гаспадарцы было 7 пар трусоў; з іх прадалі 5 трусоў. Колькі трусоў асталося?

**12.** Калгасніца загатовіла для каровы на тыдзень 20 *кг* вотрубяў. Першыя 4 дні яна давала карове па 2 *кг* вотрубяў, а астатнія 3 дні па 4 *кг*. Колькі кілограмаў вотрубяў асталося ў калгасніцы к канцу тыдня?

**13.** Пеця хацеў купіць 2 сшыткі па 10 кап.; у яго было 6 манет па 3 кап. Колькі капеек у яго нехапала на пакупку?

**14.** За 3 *м* паркалю заплацілі 18 руб. Колькі каштуе 1 *м* паркалю?

**15.** Мама дала 18 грэцкіх арэхаў пароўну сыну і дачцэ. Колькі арэхаў атрымаў кожны з іх?

**16.** На адну кашулю ідзе 3 *м* паркалю. Колькі такіх кашуль пашыюць з 15 *м* паркалю?



**17.** За 1 гадзіну майстар робіць на станку 4 дэталі. За колькі гадзін ён зробіць 20 такіх дэталей?

| **18.** | | | |
|---|---|---|---|
| | 18 : 2 | 15 : 3 | 5 : 5 |
| | 12 : 2 | 8 : 4 | 15 : 5 |
| | 16 : 2 | 4 : 4 | 20 : 5 |
| | 20 : 2 | 12 : 4 | 14 : 7 |
| | 6 : 3 | 16 : 4 | 16 : 8 |
| | 3 : 3 | 20 : 4 | 18 : 9 |
| | 12 : 3 | 10 : 5 | |



**19.** Білет на праезд у трамваі каштуе 15 кап. Колькі патрэбна заплаціць за яго пяцікапеечных манет? А колькі трохкапеечных?




**20.** Гаспадыня купіла на рынку 20 моркавак; 2 моркаўкі яна дала сыну, а астатнія зрасходавала пароўну ў 3 дні. Па колькі моркавак яна расходавала ў дзень?

**21.** Дзеці пасадзілі каля школы 20 таполяў: 2 таполі ля варот, а астатнія на двары па 9 таполяў у рад. Колькі радоў таполяў дзеці пасадзілі на двары?

**22.** У класе 18 дзяўчынак, палова з іх «выдатніцы». Колькі дзяўчынак-«выдатніц» у гэтым класе?

**23.** На ёлку вырашылі зрабіць 20 зорачак. У першы дзень зрабілі чацвертую частку. Колькі зорачак зрабілі ў першы дзень? Колькі зорачак асталося яшчэ зрабіць?

**24.** Вучань купіў некалькі пер'яў па 3 кап. Ва ўплату за іх ён аддаў 20 кап. і атрымаў 2 кап. рэшты. Колькі пер'яў купіў вучань?

**25.** У дзіцячым садзе было 20 дзяцей. За вялікі стол пасадзілі абедаць 8 чалавек, астатніх дзяцей рассадзілі пароўну за 3 маленькія сталы. Па колькі дзяцей пасадзілі за кожны маленькі столік?

**26.** У садзе было 12 фруктовых дрэў. Палову з іх складалі ігрушы; астатнія былі яблыні. Колькі яблынь было ў садзе?

**27.** У аўтобусе было 16 пасажыраў. Чацвертая частка іх сышла на астаноўцы. Астатнія паехалі далей. Колькі пасажыраў паехала далей?



**28.** У аўтобусе было 18 пасажыраў. На астаноўцы палова з іх вышла, а зноў села 7 чалавек. Колькі чалавек стала ў аўтобусе пасля астаноўкі?

**29.** Пасажыр заплаціў за праезд у аўтобусе 20 кап., з іх ён даў адну манету ў 5 кап., а астатнія манеты па 3 кап. Колькі трохкапеечных манет заплаціў пасажыр?

**30.** На вучэнне вылецела 16 самалётаў. Адзін самалёт вылецеў уперад, а астатнія падзяліліся на звенні па 3 самалёты ў кожным звяне. Колькі звенняў яны ўтварылі?

**31.** Карова дала за дзень 19 *л* малака. 3 *л* гэтага малака выпілі, а астатняе малако разлілі ў збаны па 2 *л* у кожны. У колькі збаноў разлілі малако?

**32.** На ўборку бульбы на работу вышла 20 калгаснікаў. Двух калгаснікаў прызначылі адвозіць бульбу, а астатніх разбілі на 3 аднолькавыя брыгады. Колькі чалавек было ў кожнай брыгадзе?

**33.** Для дзіцячага сада купілі 15 *кг* цукровага пяску. 3 *кг* пяску ўжылі на прыгатаўленне стравы, а астатні пясок зрасходавалі на чай пароўну ў 6 дзён. Па колькі кілаграмаў цукровага пяску зрасходавалі на чай штодзённа?

**34.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 9 : 3 + 8 | 4 : 4 + 18 | 10 : 5 + 17 | 12 : 6 + 15 |
| 12 : 3 + 7 | 12 : 4 + 13 | 15 : 5 + 13 | 18 : 9 + 13 |
| 15 : 3 + 6 | 16 : 4 + 9 | 20 : 5 + 14 | 14 : 7 + 9 |
| 18 : 3 + 4 | 20 : 4 + 7 | 5 : 5 + 19 | 16 : 8 + 16 |



**35.** Для калгаснай чытальні купілі 20 *л* карасіну. Колькі карасіну асталося праз 3 дні, калі штодзённа расходавалі па 6 *л*?

**36.** Для калгаснай чытальні купілі некалькі літраў карасіну. 3 дні расходавалі па 6 *л*, і пасля гэтага асталося яшчэ 2 *л* карасіну. Колькі літраў карасіну было куплена для чытальні?

**37.** Для калгаснай чытальні купілі 20 *л* карасіну. Праз 3 дні асталося ад купленага карасіну 2 *л*. Па колькі літраў карасіну расходавалі ў сярэднім кожны дзень?

**38.** Для калгаснай чытальні купілі 20 *л* карасіну. Штодзённа расходуецца 6 *л* карасіну. Праз колькі дзён ад купленага карасіну астанецца 2 *л*?

**39.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 6×3 − 9 | 2×6 − 5 | 12 : 6 + 5 | 15 : 3 + 6 |
| 4×5 − 13 | 5×3 − 8 | 12 : 3 + 9 | 14 : 7 + 9 |
| 2×7 − 8 | 4×4 − 7 | 16 : 4 + 7 | 18 : 3 + 4 |
| 3×4 − 7 | 7×2 − 6 | 18 : 6 + 8 | 20 : 5 + 7 |

**40.** Дзеці дзіцячага дома пасадзілі 20 град морквы, буракоў на 10 град больш, чым морквы, а бульбы на 10 град больш, чым буракоў. Колькі ўсяго град засадзілі дзеці гароднінай?

**41.** Адна даярка надаіла 40 *л* малака, а другая 50 *л*. Усё гэта малако разлілі ў бідоны па 30 *л* у кожны. Колькі бідонаў занялі пад малако?

**42.** Вучань купіў 5 сшыткаў па 10 кап., а ў касу даў 3 манеты па 20 кап. Колькі ён атрымаў рэшты?

**43.** Паштовая марка на пісьмо каштуе 30 кап. Колькі грошай астанецца ад рубля, калі адправіць поштай 3 пісьмы?



**44.** Адзін трактар замяняе 20 коней. Колькі коней замяняюць 2 трактары? 3 трактары? 4 трактары? 5 трактараў?

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **45.** | $10+60$ | $50-10$ | $20\times3$ | $20:2$ | $40:20$ |
| | $30+40$ | $70-20$ | $30\times3$ | $60:3$ | $80:20$ |
| | $70+30$ | $90-40$ | $40\times2$ | $80:4$ | $90:30$ |
| | $50+20$ | $100-30$ | $50\times2$ | $100:2$ | $100:50$ |

**46.** Задача-жарт. Трое дзяцей прабеглі 90 *м*. Колькі метраў прабег кожны?

**47.** Куплена 2 *м* тканіны па 40 руб. і 4 *м* істужкі па 5 руб. за 1 *м*. Колькі каштуе ўся пакупка?



**48.** У магазін прывезлі 80 *кг* макаронаў. Частку іх упакавалі ў 3 скрынкі па 20 *кг* у кожную, а астатнія макароны расклалі ў пакеты па 2 *кг*. У колькі пакетаў расклалі астатнія макароны?

**49.** Хацелі купіць 3 паштовыя маркі па 30 кап., але замест гэтага прыбавілі 10 кап. і купілі маркі па 20 кап. Колькі марак па 20 кап. было куплена?

**50.** Два класы вучняў, па 40 чалавек у кожным, паехалі на экскурсію. Да іх далучыліся 10 чалавек бацькоў. Усе яны селі пароўну ў 3 аўтобусы. Па колькі чалавек села ў кожны аўтобус?

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **51.** | $x+7=15$ | $x-6=5$ | $x\times2=14$ | $x:4=5$ |
| | $x+2=20$ | $x-8=3$ | $x\times3=18$ | $x:3=6$ |
| | $6+x=13$ | $12-x=5$ | $4\times x=12$ | $14:x=2$ |
| | $7+x=12$ | $13-x=9$ | $3\times x=15$ | $18:x=9$ |

| | | | |
|---|---|---|---|
| **52.** | $40+x=60$ | $90-x=70$ | $x-20=50$ |
| | $60+x=90$ | $100-x=50$ | $x-10=60$ |
| | $x+20=70$ | $60-x=20$ | $x-90=10$ |
| | $x+30=50$ | $70-x=10$ | $x-30=70$ |

**53.** Ва ўплату за задачнік вучань даў 5 манет па 10 кап. і яшчэ манету ў 5 кап. Колькі каштаваў задачнік?



**54.** Калі вучань патраціў на пакупку кніжкі 75 кап., у яго асталося яшчэ 20 кап. Колькі грошай было ў яго да пакупкі кніжкі?

**55.** Маме 35 год, а тата на 5 год старэй мамы. Колькі год тату?

**56.** Ваня злавіў 28 рыбак, а Вова на 2 рыбкі больш. Колькі рыбак злавілі яны разам?

**57.** У Вані было па адной манеце ў 10 кап., 15 кап. і 20 кап. Колькі ў Вані было ўсяго грошай?

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **58.** | $60+4$ | $40+30$ | $38+10$ | $58+1$ | $64+6$ |
| | $80+2$ | $56+20$ | $42+30$ | $43+6$ | $72+8$ |
| | $7+30$ | $38+60$ | $20+28$ | $5+22$ | $3+57$ |
| | $5+40$ | $10+90$ | $30+57$ | $4+53$ | $5+65$ |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **59.** | $32+14$ | $21+37$ | $72+18$ | $17+43$ | $56+44$ |
| | $57+12$ | $14+53$ | $67+23$ | $23+57$ | $38+62$ |
| | $42+15$ | $31+46$ | $45+15$ | $14+76$ | $23+77$ |
| | $31+26$ | $25+63$ | $66+14$ | $11+39$ | $51+49$ |

**60.** Калгасніца накапала 78 мяшкоў бульбы, з іх 10 мяшкоў яна пакінула на насенне, 25 мяшкоў прадала, астатнюю бульбу загатовіла на ежу. Колькі бульбы яна загатовіла на ежу?

**61.** Агульны сшытак каштуе 55 кап., а просты вучнёўскі на 45 кап. дзешавей. Колькі каштуюць два сшыткі разам?

**62.** Брат рашыў 40 прыкладаў, а сястра на 6 прыкладаў менш. Колькі прыкладаў рашылі яны ўсяго?

**63.** Лёля купіла істужку даўжынёй у 1 *м*, а Ніна на 25 *см* карацей. Якой даўжыні істужку купіла Ніна?

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **64.** | $72-20$ | $94-4$ | $36-30$ | $67-3$ | $56-32$ |
| | $66-30$ | $63-3$ | $42-40$ | $98-5$ | $37-26$ |
| | $98-50$ | $28-8$ | $76-70$ | $56-4$ | $95-72$ |
| | $100-70$ | $67-7$ | $98-90$ | $37-2$ | $83-52$ |

**65.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 73—33 | 67—32 | 90— 2 | 90—36 | 100— 5 |
| 96—56 | 98—73 | 60— 7 | 80—42 | 100— 7 |
| 54—51 | 48—45 | 40—23 | 100—75 | 100—92 |
| 68—65 | 48—31 | 50—35 | 100—37 | 100—84 |
| 75—72 | 66—52 | 80—67 | 70—24 | 100—73 |




**66.** Дзіцячая пляцоўка мела ў даўжыню 30 *м*. З аднаго боку яе падоўжылі на 12 *м*, з другога на 15 *м*. Якой даўжыні стала дзіцячая пляцоўка?

**67.** Дзіцячая пляцоўка мела ў даўжыню 20 *м*. З аднаго боку яе падоўжылі на 30 *м*, з другога боку пакарацілі на 12 *м*. Якой даўжыні стала дзіцячая пляцоўка?

**68.** Ад ганка да пограба паклалі дзве дошкі даўжынёй у 7 *м* і 9 *м*. Нехапіла дошак яшчэ на 12 *м*. Колькі метраў ад ганка да пограба?




**69.** Шырыня вуліцы 28 *м*, а тратуары з абодвух бакоў займаюць па 3 *м*. Якая шырыня праезджай часткі вуліцы?

**70.** Настаўнік даў 7 вучням па 3 кніжкі і 4 вучням па 4 кніжкі. Колькі ўсяго кніжак даў вучням настаўнік?

**71.** Дзеці набралі парэчак 3 кошыкі па 5 шклянак, а маліны 4 кошыкі па 3 шклянкі. Колькі шклянак усіх ягад набралі дзеці?

**72.** Купілі марак на 75 кап., з іх 3 маркі па 20 кап., а астатнія па 5 кап. Колькі ўсяго марак купілі?

**73.** У сталоўку прывезлі на тыдзень 33 мяшкі бульбы. Першыя 2 дні расходавалі па 4 мяшкі бульбы, а астатнія



5 дзён па 5 мяшкоў. Колькі мяшкоў бульбы асталося ў сталоўцы?

**74.** У школу прывезлі 40 дошак. З іх 26 пайшло на рамонт падлогі, а астатнія зрасходавалі пароўну на пабудову двух шафаў. Колькі дошак пайшло на кожную шафу?

**75.** 30 вучняў паехалі катацца на лодках. У першыя 4 лодкі села па 4 чалавекі, а ў астатнія па 7 чалавек. Колькі лодак занялі вучні?

**76.** У адным вагоне трамвая было 28 пасажыраў, у другім на 12 больш. Паставіць пытанне і рашыць задачу.

**77.** Бацьку 46 год, сын на 20 год маладзей за бацьку. Паставіць пытанне да задачы і рашыць.

**78.** Прыдумаць задачу, дзе патрэбна лік павялічыць на некалькі адзінак.

**79.** Прыдумаць задачу, дзе патрэбна лік паменшыць на некалькі адзінак.

## II. Рознаснае параўнанне.

**80.** Вымераць гэтыя дзве лініі і вылічыць, на колькі сантыметраў адна з іх даўжэй за другую?



**81.** Без угнаення з кожнай грады збіралі па 8 мяшкоў бульбы, а прымяніўшы ўгнаенне пачалі збіраць па 20 мяшкоў. На колькі павялічыўся ўраджай бульбы з кожнай грады?

**82.** Брату 12 год, а сястры 9 год. На колькі год брат старэй сястры?

**83.** Да Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі рабочыя тэкстыльных фабрык у Расіі працавалі па 11 гадзін у суткі, а цяпер яны працуюць па 8 гадзін у суткі. На колькі гадзін паменшыўся працоўны дзень тэкстыльшчыка?

**84.** У мінулым годзе члены калгаса «Праўда» на працадзень атрымалі па 12 *кг* зерня, а ў бягучым годзе па 18 *кг*. На колькі больш зерня атрымалі калгаснікі ў бягучым годзе на кожны працадзень?

**85.** Стары дом быў вышынёй у 7 *м*, а новы дом пабудавалі вышынёй у 28 *м*. На колькі метраў новы дом вышэй старога?

**86.** Метр сукна каштуе 65 руб., а метр баваўнянай тканіны 15 руб. На колькі рублёў метр баваўнянай тканіны дзешавей метра сукна?



**87.** На колькі 40 больш 37? 25? 16? 9? На колькі 52 менш 60? 72? 84? 100?

**88.** Каню даюць у дзень 20 *кг* сена, а карове 14 *кг*. На колькі кілограмаў у дзень конь атрымлівае сена больш, чым карова?

**89.** Пры дрэнным доглядзе карова дае не больш 6 *л* малака ў дзень. Пры добрым доглядзе і правільным кармленні карова дае да 30 *л* малака ў дзень. На колькі можа павялічыцца штодзённы ўдой каровы пры добрым доглядзе?

**90.** Наш партызанскі атрад захапіў у палон 72 фашысцкія салдаты і 8 афіцэраў. Другі атрад узяў у палон 53 салдаты і 5 афіцэраў. Які атрад узяў палонных больш і на колькі?

**91.** Які лік менш 45 на 3? на 12? на 22?

**92.** Які лік больш 37 на 2? на 40? на 53?

**93.** Купілі 5 фарбаў па 20 кап. кожная і кістачку за 75 кап. На колькі больш заплацілі за фарбы, чым за кістачку?



**94.** Хлопчыкі і дзяўчынкі садзілі ягадныя кусты. Хлопчыкі пасадзілі 4 рады па 4 кусты, а дзяўчынкі 3 рады па 6 кустоў. Хто з іх пасадзіў больш кустоў — хлопчыкі ці дзяўчынкі — і на колькі?

**95.** У хаце-лабараторыі праверылі ўсхожасць насення пшаніцы і ячменю. З 100 зерняў пшаніцы не прарасло 5 зерняў, а з 100 зерняў ячменю не прарасло 16 зерняў. Якіх зерняў прарасло больш і на колькі?




**96.** Шырыня рэчкі летам 44 *м*, а вясной адзін бераг заліваецца на 9 *м*, другі на 7 *м*. На колькі метраў вясной рака шырэй, чым летам? Якой шырыні бывае яна вясной?




## III. Складанне і адыманне з пераходам праз дзесятак.

**(Паўтарэнне.)**

25 + 6;

5 + 6 = 11; 20 + 11 = 31; 25 + 6 = 31.

**97.** За дзіцячы столік заплацілі 35 руб., а за крэсла 7 руб. Колькі каштуюць крэсла і столік разам?

**98.** Ад кавалка сукна адрэзалі 8 *м*, пасля гэтага асталося ў кавалку 26 *м*. Колькі метраў сукна было ў кавалку?

**99.** Дуб бывае да 58 *м* вышыні, а сасна на 6 *м* вышэй? Якой вышыні бывае сасна?

**100.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 29 + 8 | 32 + 9 | 89 + 2 | 42 + 9 | 34 + 8 |
| 36 + 7 | 43 + 8 | 77 + 5 | 64 + 7 | 83 + 9 |
| 48 + 5 | 54 + 7 | 68 + 6 | 75 + 6 | 67 + 6 |
| 57 + 4 | 65 + 6 | 73 + 8 | 53 + 8 | 56 + 7 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **101.** | 9+22 | 6+45 | 7+66 | 8+75 | 9+82 |
| | 4+37 | 8+23 | 5+46 | 4+47 | 3+48 |
| | 7+44 | 3+38 | 7+24 | 6+25 | 8+43 |
| | 2+59 | 6+67 | 2+39 | 9+42 | 5+26 |

**102.** У калгасе было 3 брыгады. Першая брыгада прапалола 15 град, другая на 6 град больш першай, а трэцяя на 4 грады больш другой. Колькі град прапалола трэцяя брыгада?

**103.** Сын набраў 16 грыбоў, а бацька на 8 грыбоў больш. Колькі грыбоў набралі яны разам?

**104.** У соўгасе параконных плугоў было 17, а трактарных на 5 больш. Колькі ўсяго плугоў было ў соўгасе?

28+13;

28+10=38; 38+3=41; 28+13=41.

**105.** Чаравікі каштуюць 65 руб., а галошы 17 руб. Колькі каштуюць чаравікі і галошы разам?

**106.** Вучань прачытаў з кніжкі 28 старонак, асталося прачытаць яшчэ 57 старонак. Колькі ўсіх старонак у кніжцы?

**107.** У мінулым годзе ў яслях было 65 дзяцей, а цяпер на 28 больш. Колькі цяпер дзяцей у яслях?

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **108.** | 16+16 | 29+29 | 38+13 | 48+14 | 25+48 |
| | 28+28 | 18+18 | 47+15 | 52+19 | 35+57 |
| | 46+46 | 36+36 | 29+32 | 34+17 | 18+65 |
| | 37+37 | 47+47 | 56+27 | 23+18 | 17+46 |
| **109.** | 68+25 | 36+57 | 37+58 | 58+33 | 64+29 |
| | 54+37 | 67+26 | 45+49 | 46+45 | 59+34 |
| | 43+48 | 55+38 | 66+27 | 38+59 | 47+46 |
| | 35+56 | 44+47 | 51+39 | 65+28 | 39+52 |

**110.** Вучань купіў 6 пер'яў па 3 кап. і 4 фарбы па 4 кап. Колькі грошай ён зрасходаваў на ўсю пакупку?





**111.** У Лёлі было 3 манеты па 5 кап. і 9 манет па 2 кап. Колькі ўсяго грошай было ў Лёлі?

**112.** У садзе расло маліны 27 кустоў, а парэчак на 18 кустоў больш. Колькі ўсяго ягадных кустоў расло ў садзе?

**113.** Лямпа каштуе 17 руб., а абажур на 28 руб. даражэй. Колькі каштуюць лямпа і абажур разам?

| | | | |
|---|---|---|---|
| **114.** | 2×4+43 | 7×2 +57 | 3×6+43 |
| | 3×5+58 | 2×5 +56 | 9×2+64 |
| | 6×1+87 | 3×4 +39 | 2×6+59 |
| | 3×2+38 | 2×10+52 | 5×3+67 |
| **115.** | 48+ 7−32 | 29+35−6 | 12 : 2+39 |
| | 56+ 9−32 | 24+37−5 | 18 : 2+47 |
| | 28+35−52 | 19+46−8 | 16 : 4+28 |
| | 39+43−61 | 37+28−9 | 20 : 4+56 |



| | |
|---|---|
| 64+26−17 | 18 : 3+68 |
| 35+25−13 | 14 : 2+54 |
| 63+37−28 | 15 : 3+78 |
| 24+76−31 | 16 : 8+89 |

**116.** Насценны гадзіннік адбівае кожную гадзіну. Колькі ўдараў ён зробіць з гадзіны ночы да поўдня?

**117.** У хлопчыка было 3 манеты па 5 кап. і 6 манет па 3 кап. Ён зрасходаваў на фарбы 30 кап. Колькі грошай у яго асталося?

**118.** У сталоўцы загатовілі на дзень 72 катлеты. За снеданнем прадалі 8 катлет. Колькі катлет асталося пасля снедання?

**101.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 9+22 | 6+45 | 7+66 | 8+75 | 9+82 |
| 4+37 | 8+23 | 5+46 | 4+47 | 3+48 |
| 7+44 | 3+38 | 7+24 | 6+25 | 8+43 |
| 2+59 | 6+67 | 2+39 | 9+42 | 5+26 |

**102.** У калгасе было 3 брыгады. Першая брыгада прапалола 15 град, другая на 6 град больш першай, а трэцяя на 4 грады больш другой. Колькі град прапалола трэцяя брыгада?

**103.** Сын набраў 16 грыбоў, а бацька на 8 грыбоў больш. Колькі грыбоў набралі яны разам?

**104.** У соўгасе параконных плугоў было 17, а трактарных на 5 больш. Колькі ўсяго плугоў было ў соўгасе?

28+13;

28+10=38;    38+3=41;    28+13=41.

**105.** Чаравікі каштуюць 65 руб., а галошы 17 руб. Колькі каштуюць чаравікі і галошы разам?

**106.** Вучань прачытаў з кніжкі 28 старонак, асталося прачытаць яшчэ 57 старонак. Колькі ўсіх старонак у кніжцы?

**107.** У мінулым годзе ў яслях было 65 дзяцей, а цяпер на 28 больш. Колькі цяпер дзяцей у яслях?

**108.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 16+16 | 29+29 | 38+13 | 48+14 | 25+48 |
| 28+28 | 18+18 | 47+15 | 52+19 | 35+57 |
| 46+46 | 36+36 | 29+32 | 34+17 | 18+65 |
| 37+37 | 47+47 | 56+27 | 23+18 | 17+46 |

**109.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 68+25 | 36+57 | 37+58 | 58+33 | 64+29 |
| 54+37 | 67+26 | 45+49 | 46+45 | 59+34 |
| 43+48 | 55+38 | 66+27 | 38+59 | 47+46 |
| 35+56 | 44+47 | 51+39 | 65+28 | 39+52 |

**110.** Вучань купіў 6 пер'яў па 3 кап. і 4 фарбы па 4 кап. Колькі грошай ён зрасходаваў на ўсю пакупку?





**111.** У Лёлі было 3 манеты па 5 кап. і 9 манет па 2 кап. Колькі ўсяго грошай было ў Лёлі?

**112.** У садзе расло маліны 27 кустоў, а парэчак на 18 кустоў больш. Колькі ўсяго ягадных кустоў расло ў садзе?

**113.** Лямпа каштуе 17 руб., а абажур на 28 руб. даражэй. Колькі каштуюць лямпа і абажур разам?

**114.**

| | | |
|---|---|---|
| 2×4+43 | 7×2 +57 | 3×6+43 |
| 3×5+58 | 2×5 +56 | 9×2+64 |
| 6×1+87 | 3×4 +39 | 2×6+59 |
| 3×2+38 | 2×10+52 | 5×3+67 |

**115.**

| | | |
|---|---|---|
| 48+ 7−32 | 29+35−6 | 12 : 2+39 |
| 56+ 9−32 | 24+37−5 | 18 : 2+47 |
| 28+35−52 | 19+46−8 | 16 : 4+28 |
| 39+43−61 | 37+28−9 | 20 : 4+56 |



| | |
|---|---|
| 64+26−17 | 18 : 3+68 |
| 35+25−13 | 14 : 2+54 |
| 63+37−28 | 15 : 3+78 |
| 24+76−31 | 16 : 8+89 |

**116.** Насценны гадзіннік адбівае кожную гадзіну. Колькі ўдараў ён зробіць з гадзіны ночы да поўдня?

**117.** У хлопчыка было 3 манеты па 5 кап. і 6 манет па 3 кап. Ён зрасходаваў на фарбы 30 кап. Колькі грошай у яго асталося?

**118.** У сталоўцы загатовілі на дзень 72 катлеты. За снеданнем прадалі 8 катлет. Колькі катлет асталося пасля снедання?

**119.** Адна лінейка была даўжынёй у 45 *см*, другая на 7 *см* карацей. Якой даўжыні была другая лінейка?

**120.** Калгасніцы прапалолі за дзень 23 грады, прычым 9 град да абеду, а астатнія пасля абеду. Колькі град яны прапалолі пасля абеду?

**121.** Старая сажалка была даўжынёй у 9 *м*, а новая сажалка мае ў даўжыню 65 *м*. На колькі метраў новая сажалка даўжэй старой?

**122.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 21−2 | 32−3 | 42−4 | 51−3 | 73−6 |
| 23−4 | 34−5 | 45−7 | 53−5 | 85−5 |
| 25−6 | 36−7 | 47−8 | 55−8 | 84−8 |
| 31−3 | 41−8 | 46−7 | 62−6 | 92−9 |

**123.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 41−2 | 73−4 | 91−6 | 42−3 | 53−7 |
| 37−8 | 84−5 | 84−6 | 35−7 | 46−9 |
| 92−4 | 57−9 | 57−8 | 88−9 | 61−2 |
| 56−8 | 65−7 | 62−4 | 73−8 | 74−6 |

**124.** З аднаго парніка сабралі 35 агуркоў, а з другога на 17 агуркоў больш. З усіх сабраных агуркоў 8 аставілі свежымі, а астатнія засалілі. Колькі агуркоў засалілі?

**125.** У адным атрадзе было 45 партызан, а ў другім 38. З усёй колькасці партызан 6 чалавек паслалі ў разведку, а астатнія схаваліся ў засадзе. Колькі чалавек схавалася ў засадзе?

43−15;

43−10=33; 33−5=28; 43−15=28.

**126.** У школьным садзе дзеці пасадзілі 45 кустоў маліны і парэчак, з іх маліны 18 кустоў. Колькі кустоў парэчак пасадзілі дзеці?

**127.** Паліто каштуе 92 руб., а куртка на 37 руб. дзешавей. Колькі каштуе куртка?

**128.** У дзіцячым садзе было 87 дзяцей, а ў дзіцячых яслях 59 дзяцей. На колькі ў дзіцячым садзе было больш дзяцей, чым у яслях?



**129.**

| | | |
|---|---|---|
| 62−44 | 55−28 | 71−15 |
| 74−37 | 76−39 | 26−18 |
| 57−29 | 87−48 | 92−44 |
| 63−38 | 100−36 | 80−36 |

**130.**

| | | |
|---|---|---|
| 81−32 | 62−47 | 100−81 |
| 93−44 | 75−37 | 84−28 |
| 91−76 | 57−28 | 66−39 |
| 75−28 | 62−38 | 57−19 |

**131.** Вучань атрымаў на пакупку чарніла і ручкі 1 руб. За чарніла ён заплаціў 36 кап., а за ручку 28 кап. Колькі грошай у яго асталося?

**132.** Хлопчык набраў у лесе 92 грыбы, з якіх белых было 18, груздзяў 38, а астатнія былі рыжыкі. Колькі рыжыкаў набраў хлопчык?

**133.** Дзеці лясной школы набралі 52 шклянкі ягад; 9 шклянак ягад з'елі за абедам, з 36 шклянак зварылі кампот, а астатнія ягады пакінулі на вячэру. Колькі шклянак ягад пакінулі на вячэру?

**134.** У Пеці было 16 галубоў, у Сярожы на 7 галубоў менш. Колькі галубоў было ў Пеці і Сярожы разам?

**135.**

| | |
|---|---|
| 48+ 3−25 | 64+18− 9 |
| 87+ 8−36 | 35+27− 6 |
| 56+ 5−42 | 43+39− 5 |
| 36+ 7−27 | 72+19− 4 |
| 38+24−47 | 17+54−28 |
| 26+45−53 | 46+27−39 |
| 18+64−75 | 38+25−47 |
| 14+77−82 | 16+58−56 |

**136.** У гародзе пад морквай было 22 грады, пад капустай на 15 град менш, а пад агуркамі столькі, колькі пад капустай і морквай разам. Колькі град усяго было засаджана ў гародзе?

**137.** Дзіцячы стол каштуе 32 руб., крэсла на 18 руб. дзешавей, а шафа каштуе столькі, колькі стол і крэсла разам. Колькі каштуе дзіцячы стол, крэсла і шафа разам?

**138.** Купілі 1 *м* гумавага шнурка. Да сукенкі прышылі 42 *см*, а на рукавічкі адрэзалі на 15 *см* менш. Колькі гумавага шнурка асталося?

**139.** Вясной калгасніца паклала пад адну курыцу 18 яек, а пад другую на 3 яйкі менш. З усіх яек вылупіліся кураняты; 4 куранят схапіў каршун. Колькі куранят асталося ў калгасніцы?

**140.** За зубную шчотку заплацілі 8 манет па 10 кап. і яшчэ 3 кап., а за каробку зубнога парашка заплацілі 2 манеты па 20 кап. і яшчэ 5 кап. На колькі капеек шчотка даражэй парашка?

**141.** На адной паліцы было 42 кніжкі, а на другой 39 кніжак. З першай паліцы знялі 5 кніжак і паклалі іх на другую паліцу. На якой паліцы стала больш кніжак і на колькі?

**142.** На адным скотным двары было 62 каровы, а на другім 58. З першага скотнага двара 5 кароў перавялі ў другі. На якім двары стала больш кароў і на колькі?

**143.** За 5 *м* шоўку заплацілі 100 руб. Колькі каштуюць 3 *м* гэтага шоўку?

**144.** У пяць бідонаў разлілі пароўну 100 *л* малака. 3 бідоны здалі ў сталоўку. Колькі літраў малака асталося?

**145.** За 2 *м* сукна заплацілі 80 руб., а за 3 *м* тканіны 18 руб. На колькі рублёў метр сукна каштаваў даражэй метра тканіны?

**146.** У 3 бідоны пароўну разлілі 90 *л* малака, а ў 4 збаны 20 *л*. На колькі малака больш у бідоне, чым у збане?

**147.** 2 хлопчыкі беглі адзін другому насустрач: адзін прабег 38 *м*, другі 47 *м*, паміж імі асталося яшчэ 15 *м*. На якой адлегласці яны былі адзін ад другога спачатку?

**148.** 2 хлопчыкі былі на адлегласці 95 *м*; яны пабеглі насустрач адзін другому: адзін прабег 32 *м*, другі 39 *м*. На якой адлегласці адзін ад другога яны апынуліся?



**149.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| $14:2+56$ | $14:7+62$ | $15:5+48$ | $9\times2+34$ |
| $6:3+39$ | $12:2+49$ | $16:4+57$ | $6\times3+45$ |
| $8:4+78$ | $9:3+28$ | $14:2+69$ | $2\times7+58$ |
| $20:5+88$ | $12:4+37$ | $12:3+76$ | $4\times3+69$ |

**150.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| $48+x=50$ | $82-x=65$ | $x-45=47$ | $x+18=63$ |
| $59+x=83$ | $81-x=43$ | $x-28=52$ | $48+x=75$ |
| $x+39=67$ | $90-x=52$ | $x-17=64$ | $x-18=42$ |
| $x+24=72$ | $100-x=92$ | $x-36=27$ | $96-x=38$ |

**151.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| $23+47-35$ | $61-36+48$ | $38+43-57$ | $5\times3+27$ |
| $16+56-64$ | $72-57+39$ | $27+54-65$ | $3\times6+45$ |
| $34+48-57$ | $100-64+45$ | $100-4-62$ | $2\times8+58$ |
| $46+27-35$ | $93-57+27$ | $83-15-39$ | $4\times4+77$ |

Падабраць лікі і рашыць задачы:

**152.** У школьным садзе было ... бяроз і ... таполяў, у дзень лесу яшчэ пасадзілі ... бяроз і ... таполяў. Якіх дрэў стала больш і на колькі?

**153.** Купілі ... блакнотаў па ... кап. і ... сшыткаў па ... кап. На колькі больш грошай зрасходавалі на блакноты, чым на сшыткі?

**154.** Скласці лікі квадрата па радах і па слупках. Колькі атрымалася ад складання лікаў кожнага рада? кожнага слупка?

| | | |
|---|---|---|
| 35 | 28 | 15 |
| 20 | 37 | 21 |
| 23 | 13 | 42 |

**155.**

1-ы

| | | |
|---|---|---|
| 18 | 46 | 36 |
| | 35 | |
| 42 | | |

2-і

| | | |
|---|---|---|
| 18 | | |
| 17 | 38 | 40 |
| | | 28 |

3-і

| | | |
|---|---|---|
| | | 38 |
| 42 | 35 | 22 |
| | 53 | |

Нарысаваць у сшытку першы квадрат і запоўніць пустыя клеткі так, каб ад складання лічбаў любога рада і любога слупка атрымаўся адзін і той-жа лік. Тое-ж самае зрабіць з другім і трэцім квадратамі.

Задачы-жарты.

**156.** Двое гулялі ў шашкі 4 гадзіны. Колькі гадзін гуляў кожны з іх?

**157.** Два бацькі і два сыны з'елі за снеданнем 3 яйкі, прычым кожнаму з іх дасталося па 1 яйку. Як гэта магло здарыцца?

# IV. Табліца множання і таблічнае дзяленне.

### 1. Множанне 2. Дзяленне на 2.

**158.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 2×1 | 2×3 | 2×5 | 2×7 | 2×9 |
| 2×2 | 2×4 | 2×6 | 2×8 | 2×10 |
| 1×2 | 3×2 | 5×2 | 7×2 | 9×2 |
| 2×2 | 4×2 | 6×2 | 8×2 | 10×2 |

**159.**

| · | · | · | · |
|---|---|---|---|
| · | · | · | · |

4×2=8

2×4=8

Растлумачыць, як палічаны клеткі ў першым і ў другім радках.

**160.** У адной руцэ 10 манет па 2 кап., у другой руцэ 2 манеты па 10 кап. У якой руцэ грошай больш і на колькі?

**161.** У адным пакоі дзіцячага сада ложкі стаяць у 2 рады па 4 у кожным. У другім пакоі ложкі стаяць у 4 рады па 2 у кожным. У якім пакоі ложкаў больш і на колькі?

**162.**

| | | |
|---|---|---|
| 2×1=1×2 | 2× 7=?×? | 2×4=?×? |
| 2×3=?×? | 2×10=?×? | 2×6=?×? |
| 2×5=?×? | 2× 9=?×? | 2×8=?×? |



**163.** Пеця хоча купіць аловак за 15 кап. У яго 5 манет па 2 кап. і 1 манета ў 5 кап. Ці хопіць яму грошай на аловак?

**164.** Вучань купіў 10 пер'яў па 2 кап. і аловак за 15 кап. На колькі даражэй ён заплаціў за пер'і, чым за аловак?

**165.** Маці купіла 5 *кг* яблык па 2 руб. за кілограм і на 6 руб. вішань. Ад пакупкі ў яе асталося 5 руб. Колькі грошай было ў маці да пакупкі?

**166.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 2×2+17 | 2×3+28 | 2× 1+39 | 2×7+57 |
| 2×8− 9 | 2×6− 4 | 2× 5+46 | 2×9+69 |
| 2×4+18 | 2×9+27 | 2×10− 4 | 2×8− 7 |

---

**167.** Колькі разоў ад 6 кап. можна адымаць па 2 кап.? Колькі разоў па 2 кап. змяшчаецца ў 6 кап.?

Запіс дзеяння:

6 кап. : 2 кап.=3.

**168.** Колькі разоў па 2 можна адымаць ад 8?
Колькі разоў 2 змяшчаецца ў 8?

**169.** Колькі разоў 2 змяшчаецца ў 12?

**170.** Узяць па 2 кап. 10 разоў. Колькі разоў па 2 кап. змяшчаецца ў 20 кап.? Запісаць абодва дзеянні.

**171.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 2×3 | 2×2 | 2×4 | 2× 8 | 2×7 |
| 6 : 2 | 4 : 2 | 8 : 2 | 16 : 2 | 14 : 2 |
| 2×5 | 2×6 | 2×9 | 2×10 | 2×1 |
| 10 : 2 | 12 : 2 | 18 : 2 | 20 : 2 | 2 : 2 |

**172.** Колькі патрэбна манет па 2 кап., каб заплаціць 18 кап.?

**173.** Для дзіцячага дома купілі 30 *м* тканіны. З 14 *м* гэтай тканіны пашылі навалачкі, а з астатняй тканіны пашылі кашулі. На кожную кашулю пайшло па 2 *м*. Колькі пашылі кашуль?

---

**174.** Вымераць палоску і падзяліць яе на 2 роўныя часткі (папалам). Колькі сантыметраў у палове палоскі?



**175.** У вядры 12 *л* малака. Колькі літраў малака ў палове вядра?

**176.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 3×2 | 5×2 | 1×2 | 4×2 | 7×2 |
| 6 : 2 | 10 : 2 | 2 : 2 | 8 : 2 | 14 : 2 |
| 6×2 | 10×2 | 2×2 | 8×2 | 9×2 |
| 12 : 2 | 20 : 2 | 4 : 2 | 16 : 2 | 18 : 2 |

**177.** З поля звезлі 16 мяшкоў бульбы на 2 падводах пароўну. Па колькі мяшкоў клалі на кожную падводу?

**178.** 8; 17; 12; 2; 13; 20; 6; 10; 7; 19; 3; 14; 16; 4; 5; 18. Перапісаць у сшытак тыя лікі, якія дзеляцца на 2.

***Лікі, якія дзеляцца на 2, называюцца чотнымі.***

Назваць па парадку ўсе чотныя лікі да 20.

**179.** Брат і сястра знайшлі разам 19 грыбоў. Калі брат выкінуў 3 грыбы, то грыбоў у іх асталося пароўну. Па колькі грыбоў асталося ў брата і сястры?

**180.** У двух парніках было 25 агуркоў. Калі з першага парніка ўзялі 5 агуркоў, то ў абодвух парніках агуркоў асталося пароўну. Па колькі агуркоў асталося ў кожным парніку?

**181.** Хлопчык сарваў 21 арэх. З іх 7 арэхаў ён аддаў сястры, а астатнія падзяліў з братам пароўну. Па колькі арэхаў дасталося кожнаму хлопчыку?

**182.** У класе з 18 дзяўчынак палова — «выдатніцы», хлопчыкаў-«выдатнікаў» на 2 менш. Колькі «выдатнікаў»-хлопчыкаў?

**183.** У брата і сястры разам 25 кап. Калі сястра патраціла 7 кап., у яе асталося столькі-ж грошай, колькі ў брата. Колькі было грошай у брата і колькі ў сястры?



**184.** а) 18 окцябрат пастроіліся ў рады па 2 чалавекі ў рад. Колькі атрымалася радоў?

б) 18 окцябрат пастроіліся ў 2 рады. Па колькі чалавек стала ў кожным радзе?

**185.** а) 12 *м* дроту разрэзалі на часткі па 2 *м* у кожнай частцы. На колькі частак разрэзалі дрот?

б) 12 *м* дроту разрэзалі на 2 роўныя часткі. Якой даўжыні атрымалася кожная частка дроту?

**186.** Бацька купіў 16 яблык. Палову гэтых яблык ён падзяліў дзецям па 2 яблыкі кожнаму. Колькі дзяцей атрымалі яблыкі?

### 2. Множанне 3. Дзяленне на 3.

**187.** Пяро каштуе 3 кап. Колькі каштуюць 2 пяры? 3 пяры? 5 пер'яў?

**188.**

$3+3=3\times2$

$3+3+3=3\times3$

$3+3+3+3=$

$3+3+3+3+3=$

$3+3+3+3+3+3=$

$3+3+3+3+3+3+3=$

$3+3+3+3+3+3+3+3=$

$3+3+3+3+3+3+3+3+3=$

$3+3+3+3+3+3+3+3+3+3=$

Скласці і запісаць табліцу множання 3.

**189.**



Колькі клетак у двух радах? у 4 радах?

$3\times4=(3\times2)+(3\times2)$

$3\times8=(3\times4)+(3\times?)$

$3\times6=(3\times?)+(3\times?)$

$3\times10=(3\times?)+(3\times?)$

$(3\times5)=(3\times3)+(3\times2)$

$(3\times7)=(3\times5)+(3\times?)$

$(3\times9)=(3\times?)+(3\times?)$

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 3×4 | 3×5 | 3× 2 | 3×9 | 3×3 |
| 3×7 | 3×8 | 3×10 | 3×1 | 3×6 |

**190.** Ці магчыма з кавалка тканіны ў 24 *м* пашыць 8 дзіцячых сукенак, калі на кожную сукенку патрэбна па 3 *м*?

**191.** На дзіцячую кашулю патрэбна 2 *м* тканіны, а на сукенку 3 *м*. Колькі ўсяго метраў тканіны трэба купіць на 8 кашуль і 9 сукенак?

**192.** 9 вучняў II класа пасадзілі на школьным участку па 3 дрэвы кожны, а ўсе вучні III класа пасадзілі на 15 дрэў больш, чым вучні II класа. Колькі дрэў пасадзілі вучні III класа?

**193.** Пасажыру патрэбна заплаціць за праезд у трамваі 25 кап. Ва ўплату ён даў 5 манет па 2 кап. і 5 манет па 3 кап. Ці дастаткова грошай ён даў?

**194.** У аднаго хлопчыка 5 манет па 3 кап., а ў другога 7 манет па 2 кап. На колькі капеек у аднаго хлопчыка больш, чым у другога?

**195.** На колькі капеек даражэй каштуе 7 сцёрак па 3 кап., чым 8 пер'яў па 2 кап.?

---

6—3—3=0; 9—3—3—3=? 12—3—3—3—3=?

**196.** Колькі разоў па 3 кап. можна адымаць ад 12 кап.? Колькі разоў 3 кап. змяшчаюцца ў 12 кап.?

**197.** а) Колькі разоў можна адымаць па 3 кап. ад 21 кап.? б) Колькі троек у 21?

**198.** Пяро каштуе 3 кап. Колькі пер'яў можна купіць на 15 кап.? на 18 кап.? на 21 кап.? на 27 кап.? на 30 кап.?

| **199.** | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 3×2 | 3×3 | 3× 5 | 3×7 | 3× 8 |
| 6 : 3 | 9 : 3 | 15 : 3 | 21 : 3 | 24 : 3 |
| 3×1 | 3×6 | 3×10 | 3×9 | 3×10 |
| 3 : 3 | 18 : 3 | 30 : 3 | 27 : 3 | 30 : 3 |

**200.** Праверыць, ці правільна зроблены прыклады:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 12 : 3=4 | 24 : 3=8 | 21 : 3=7 | 27 : 3= 9 |
| 18 : 3=6 | 6 : 3=2 | 9 : 3=3 | 30 : 3=10. |



**201.** Якімі аднолькавымі манетамі можна заплаціць за аловак, які каштуе 12 кап.? Колькі патрэбна гэтых манет?

**202.** Калгаснікі паехалі на спектакль на 27 конях, якія былі запрэжаны ў сані тройкамі. На колькіх санях паехалі калгаснікі на спектакль?

**203.** Колькі патрэбна манет па 3 кап., каб імі замяніць 9 манет па 2 кап.?

**204.** На сшытак патрэбна 3 аркушы паперы. Купілі спачатку 15 аркушоў паперы, а потым яшчэ 12 аркушоў. Колькі сшыткаў можна зрабіць з усёй гэтай паперы?

Рашыць задачу двума спосабамі.

**205.** З кавалка тканіны даўжынёй у 29 *м* пашылі некалькі сукенак. На кожную сукенку пайшло па 3 *м*. Колькі пашылі сукенак, калі тканіны асталося 2 *м*?

**206.** У класе 40 вучняў. 16 вучняў сядзяць на двухмесных, а астатнія на трохмесных партах. Колькі парт у класе?

**207.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 3×1=1×3=3 | 3×4=?×? | | | |
| 3×2=2×3 | 3×5=?×? | | | |
| 3×6=?×? | 3×8=?×? | | | |
| 3×7=?×? | 3×9=?×? | | | |
| 1×3 | 3×3 | 5×3 | 7×3 | 9×3 |
| 2×3 | 4×3 | 6×3 | 8×3 | 10×3 |

---

**208.** Палічыць, колькі кружкоў у кожным радку; нарысаваць іх у сшыткі і падзяліць кожны радок рысачкамі на 3 роўныя часткі.

o o ¦ o o ¦ o o 6 : 3
o o o o o o o o o 9 : 3
o o o o o o o o o o o o 12 : 3
o o o o o o o o o o o o o o o

6 : 3=2 12 : 3=? 9 : 3=? 15 : 3=?

**209.** а) У 3 слупках па 6 прыкладаў у кожным. Колькі ўсяго прыкладаў? Запісаць рашэнне задачы.

б) У 3 аднолькавых слупках 18 прыкладаў. Колькі прыкладаў у кожным слупку? Запісаць рашэнне задачы.

| **210.** | 5×3 | 7×3 | 8×3 | 9×3 | 10×3 |
|---|---|---|---|---|---|
| | 15 : 3 | 21 : 3 | 24 : 3 | 27 : 3 | 30 : 3 |

**211.** Дошку даўжынёй у 12 *м* распілавалі на 3 роўныя часткі. Колькі метраў было ў кожнай частцы?

**212.** Вяроўку даўжынёй у 27 *м* разрэзалі на 3 роўныя часткі. Чаму роўна адна трэцяя частка вяроўкі?

**213.** Што больш: палова 18 ці трэцяя частка 27?

**214.** Які лік трэба паўтарыць 3 разы, каб атрымаць 18? 12? 24? 27?

**215.** Знайсці трэцюю частку ад 12; ад 18; ад 21; ад 27; ад 30.

**216.** За 3 алоўкі заплацілі 27 кап. Колькі каштуе 1 аловак? 2 алоўкі?

**217.** За 3 *м* тканіны заплацілі 21 руб. Колькі патрэбна заплаціць за 2 *м* гэтай тканіны?

**218.** У кніжцы 18 старонак. Брат прачытаў трэцюю частку кніжкі, а сястра палову. Хто з іх прачытаў больш і на колькі старонак?

**219.** Калгаснікі накапалі за дзень 74 мяшкі бульбы: 50 мяшкоў звезлі на грузавой машыне, астатнюю бульбу звезлі пароўну на трох падводах. Па колькі мяшкоў клалі на кожную падводу?

**220.** Для асушкі балота патрэбна было выкапаць канаву даўжынёй у 35 *м*. У першы дзень выкапалі канаву даўжынёй у 8 *м*, а астатнюю частку выкапалі пароўну ў 3 дні. Па колькі метраў выкопвалі ў кожны з трох дзён?

---

**221.** а) За 3 дні зрасходавалі 24 *л* карасіну. Колькі літраў карасіну прышлося на 1 дзень, калі кожны дзень карасіну расходавалі пароўну?



б) У колькі дзён зрасходавалі 24 *л* карасіну, калі кожны дзень расходавалі па 3 *л*?

**222.** Кавалак шпагату даўжынёй у 18 *м* разрэзалі на 3 роўныя часткі. Якой даўжыні была кожная частка?

**223.** Кавалак шпагату даўжынёй у 18 *м* разрэзалі на часткі даўжынёй па 3 *м*. кожная. На колькі частак разрэзалі кавалак шпагату?

**224.** У сталоўку прывезлі 9 пакетаў цукру па 2 *кг* у кожным пакеце. Увесь гэты цукар зрасходавалі пароўну ў 3 дні. Па колькі кілаграмаў цукру расходавалі штодзённа?

**225.** У дзіцячыя яслі прывезлі 2 бідоны малака: у адным было 12 *л*, у другім 15 *л*. З кожнага бідона ўзялі на снеданне трэцюю частку малака. Астатняе малако пайшло на абед. Колькі ўсяго літраў пайшло на абед? (Рашыць двума спосабамі.)

**226.** У пашывачную майстэрню далі два кавалкі палатна — у 18 *м* і 24 *м*; на прыклад зрасходавалі з кожнага кавалка трэцюю частку палатна. Колькі метраў палатна асталося ў абодвух кавалках разам?

**227.** У трох кошыках было 32 *кг* памідораў; калі з аднаго кошыка прадалі 5 *кг*, то ў кожным кошыку асталося пароўну. Па колькі кілаграмаў памідораў асталося ў кожным кошыку?

**228.** У трох кавалках было 25 *м* сукна. Калі ад аднаго кавалка адрэзалі 4 *м*, то ў кожным кавалку асталося пароўну. Па колькі метраў сукна асталося ў кожным кавалку?

**229.** Школьны буфет загатаваў цукру на 9 дзён па 2 *кг* на дзень. На колькі дзён хопіць гэтага запасу, калі расходаваць па 3 *кг* у дзень?

**230.** З 27 *м* тканіны пашылі сукенкі, а з 24 *м* кашулі. На кожную сукенку пайшло па 3 *м* тканіны, а на кожную кашулю па 2 *м*. Паставіць пытанне да задачы і рашыць яе.

**231.** Даны лікі: 6; 5; 9; 11; 12; 15; 16; 21; 24; 25; 27; 28; 30. Перапісаць у сшытак тыя лікі, якія дзеляцца на 3.

**232.** $(12:3)+(24:3)$   $(30:3)-(18:3)$

$(27:3)+(6:3)$   $(24:3)+(15:3)$

$(3:3)+(9:3)+(6:3)$

$(27:3)+(24:3)+(21:3)$

**233.** $(100-82):2$   $(90-63):3$   $(73-55):3+47$

$(71-57):2$   $(82-58):3$   $(60-39):3+48$

$3\times8+39$   $3\times6+56$   $3\times5+26-39$

$2\times9+43$   $2\times8+77$   $3\times7+42-56$

**234.** Два хлопчыкі выбеглі адначасова насустрач адзін другому; адзін прабягаў у секунду 2 *м*, другі 3 *м*. Праз 10 сек. яны сустрэліся. На якой адлегласці яны былі спачатку?

**235.** Праз вуліцу ў вёсцы пабудавалі пераход з дошак. З аднаго боку вуліцы паклалі адну за другой 9 дошак па 2 *м*, з другога боку вуліцы паклалі 8 дошак даўжынёй па 3 *м* кожная. Якой шырыні была вуліца?

**236.** Дзеці адправіліся ў паход і за 3 гадзіны прайшлі 12 *км*. На колькі гадзін больш яны патрацяць на зваротны шлях, калі будуць ісці павольней на 1 *км* у гадзіну?

**237.** $21:3+48$   $27:3+43$   $(24:3)+(18:2)$

$18:3+57$   $30:3+90$   $(27:3)+(16:2)$

$15:3+76$   $12:3+67$   $(21:3)+(14:2)$

$24:3+35$   $27:3+52$   $(18:3)+(15:3)$

**238.** $(82-64):3$   $(72-54):3$   $(60:20)\times(14:2)$

$(100-79):3$   $(100-88):3$   $(80:40)\times(27:3)$

$(72-57):3$   $(62-35):3$   $(90:30)\times(18:2)$

$(63-36):3$   $(83-59):3$   $(100:50)\times(24:3)$

**239.** З а д а ч а - ж а р т.

У пакеце было 12 яблык. Гэтыя яблыкі патрэбна падзяліць паміж 3 дзяцей так, каб кожнае атрымала па 4 яблыкі і каб 4 яблыкі асталіся ў пакеце. Як гэта зрабіць?



### 3. Множанне 4. Дзяленне на 4.

**240.** У школе мы вучымся па 4 гадзіны ў дзень. Колькі гадзін вучымся мы ў тыдзень? У тыдні 6 вучэбных дзён.

**241.** $4+4=4\times2=8$

$4+4+4=4\times3=?$

$4+4+4+4=$

$4+4+4+4+4=$

$4+4+4+4+4+4=$

$4+4+4+4+4+4=4=$

$4+4+4+4+4+4+4+4=$

$4+4+4+4+4+4+4+4+4=$

$4+4+4+4+4+4+4+4+4+4=$

Скласці табліцу множання 4.



**242.** Колькі клетак у 2 радах? у 4 радах?

$4\times4=(4\times2)+(4\times2)$

$4\times6=(4\times3)+(4\times?)$

$4\times8=(4\times?)+(4\times?)$

$4\times10=(4\times?)+(4\times?)$

$4\times5=(4\times3)+(4\times2)$

$4\times7=(4\times5)+(4\times?)$

$4\times9=(4\times?)+(4\times?)$

**243.** У крэсла 4 ножкі. Колькі ножак у 2 крэслах? у 4 крэслах? у 8 крэслах?

**244.** Карове ў цёплым хлеве патрэбна зімой 16 *кг* сена ў дзень, а ў халодным 20 *кг*. Колькі можна зберагчы сена ў тыдзень, калі ўцяпліць хлеў?

**245.** Вучні II класа першыя 2 дні тыдня рашалі па 3 задачы ў дзень, а апошнія 4 дні па 4 задачы ў дзень. Колькі ўсяго задач яны рашылі за гэты тыдзень?

**246.** У адным бідоне 6 *л* малака, а ў другім на 5 шклянак менш. Колькі шклянак малака ў другім бідоне, калі ў 1 *л* лічыць 4 шклянкі?

**247.** Для дзіцячага сада купілі 8 *кг* цукру па 4 руб. і 2 *кг* цукерак па 9 руб. На колькі рублёў больш патрацілі на цукар, чым на цукеркі?

**248.** Майстар рабіў ножкі для табурэтак. Да абеду ён зрабіў ножкі для 4 табурэтак, а пасля абеду для 6 табурэтак. Колькі ножак зрабіў майстар за дзень? (Рашыць двума спосабамі.)

**249.** Бацька купіў 4 *м* тканіны па 3 руб. за 1 *м*, а маці 3 *м* па 4 руб. за 1 *м*. Хто з іх больш патраціў грошай?

**250.** Палічыць двума спосабамі, колькі ўсяго клетак? Абодва спосабы запісаць.

4×3=3×?  4×10=?×?  4×2=?×?

**251.**

| | | |
|---|---|---|
| 4×2+7 | 4× 3−5 | 4×8+9 |
| 4×4−8 | 4× 6+8 | 4×6−7 |
| 4×8−9 | 4× 5−3 | 4×9−5 |
| 4×1+8 | 4×10−6 | 4×7−8 |

| | |
|---|---|
| 4×10+8 | 4× 7−8 |
| 2× 8−6 | 2× 9+7 |
| 4× 9+6 | 4×10−6 |
| 3× 9−9 | 3× 8−9 |

**252.**

| | | |
|---|---|---|
| (4× 6)−(8×3) | (4×9)+(3×8) | (4×8)−(27 : 3) |
| (4×10)−(4×8) | (4×8)−(3×9) | (4×7)−(18 : 2) |
| (4× 7)+(9×3) | (4×7)+(7×3) | (4×9)+(24 : 3) |

**253.**

| | | |
|---|---|---|
| 80−(4× 8) | 72−(4×4) | 53−(4×7) |
| 90−(4×10) | 81−(4×9) | 42−(4×6) |
| 63−(4× 7) | (90 : 30)×(14 : 2) | |
| 42−(4× 6) | (80 : 20)×(27 : 3) | |

8−4−4  12−4−4−4

**254.** Колькі разоў ад 12 можна адымаць па 4? Колькі чацвёрак у 12?

**255.** Колькі разоў ад 20 можна адымаць па 4? Колькі разоў 4 змяшчаецца ў 20?



**256.** Колькі чацвёрак у 8? у 16? у 24? у 32? у 36? у 40?

**257.** З 20 аркушоў паперы сшылі сшыткі па 4 аркушы кожны. Колькі сшыткаў вышла ўсяго?

**258.** Па 4 узяць 8 раз. Колькі разоў 4 змяшчаецца ў 32?

**259.** Узяць 9 разоў па 4. Колькі разоў 4 змяшчаецца ў 36?

**260.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 4×4 | 4× 6 | 4×5 | 4×2 | 4×7 |
| 16 : 4 | 24 : 4 | 20 : 4 | 8 : 4 | 28 : 4 |
| 4×3 | 4×10 | 4×9 | 4×8 | 4×1 |
| 12 : 4 | 40 : 4 | 36 : 4 | 32 : 4 | 4 : 4 |

**261.** Праверыць прыклады:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 24 : 4= 6 | 16 : 4=4 | 32 : 4=8 | 36 : 4=9 |
| 40 : 4=10 | 15 : 3=5 | 27 : 3=9 | 20 : 4=5 |

**262.**

(8 : 4)+(16 : 4)  (20 : 4)+(40 : 4)

(36 : 4)+(24 : 4)  (28 : 4)+(32 : 4)

(12 : 3)+(12 : 4)+(12 : 2)

(36 : 4)+(28 : 4)+(18 : 2)

**263.**

| | | |
|---|---|---|
| (24 : 4)+(32 : 4) | (28 : 4)×(12 : 4) | (36 : 4)+(28 : 4) |
| (32 : 4)+ (8 : 4) | (12 : 4)×(24 : 4) | (40 : 4)+(32 : 4) |

**264.**

| | | |
|---|---|---|
| (9×3)− (8×3) | (9×3)−(27 : 3) | (7×3)−(27 : 3) |
| (4×6)− (3×7) | (4×8)−(24 : 3) | (4×9)− (3×8) |

**265.** З II класа на дэманстрацыю вышла 42 вучні: 2 вучні сталі ўперадзе са сцягам, а астатнія пастроіліся ў рады па 4 чалавекі ў рад. Колькі такіх радоў атрымалася?

**266.** За 3 *кг* цукру заплацілі 12 руб. Колькі кілаграмаў цукру можна купіць на 36 руб.?

**267.** 2 *м* паркалю каштуюць 8 руб. Колькі метраў паркалю можна купіць на 20 руб.?

**268.** Конь прабег за 3 сек. 12 *м*. За колькі секунд ён прабяжыць 32 *м*?

**269.** Карова дала раніцай 15 *л* малака, увечары на 2 *л* менш. Усё малако разлілі ў збаны па 4 *л* у кожны. У колькі збаноў разлілі гэта малако?



**270.** Жалезную балку даўжынёй у 8 *м* разрэзалі на 4 роўныя часткі. Якой даўжыні атрымалася кожная частка?

**271.** 12 *м* істужкі разрэзалі на 4 роўныя часткі. Колькі метраў у кожнай чацвертай частцы ўсёй істужкі?

**272.** Знайсці чацвертую частку ад 36; ад 28; ад 32.

**273.** За чатыры дні на харчаванне казы зрасходавалі 12 *кг* сена. Колькі сена патрэбна казе на 10 дзён?

**274.** 4 *кг* арэхаў каштуюць 20 руб. Колькі каштуюць 3 *кг* гэтых арэхаў?

**275.** На адным станку за 4 мін. рабілі 32 дэталі. На другім у кожную мінуту рабілі на 3 дэталі больш. Колькі дэталей рабілі ў мінуту на другім станку?

**276.** Веласіпедыст праехаў за 4 сек. 28 *м*, а матацыкліст праязджаў у 1 сек. на 15 *м* больш, чым веласіпедыст. Колькі метраў у адну сек. праязджаў матацыкліст?







**277.** Калгас адправіў на млын 31 мяшок жыта на 5 падводах. На адну падводу паклалі 7 мяшкоў, а на астатнія пароўну. Колькі мяшкоў жыта паклалі на кожную з астатніх падвод?

**278.** Для школьнага буфета запаслі 40 *кг* цукру. Праз 4 дні асталося 8 *кг*. Колькі кілаграмаў цукру расходавалі штодзённа, калі кожны дзень расходавалі пароўну?

**279.** За 4 алоўкі і 5 пер'яў заплацілі 46 кап. Пяро каштуе 2 кап. Колькі каштуе адзін аловак?

**280.** Машыністка павінна была перадрукаваць на машынцы 30 старонак. Яна працавала 4 гадзіны; пасля гэтага ёй асталося дадрукаваць 6 старонак. Па колькі старонак друкавала машыністка ў гадзіну?

**281.** Які лік трэба паўтарыць 4 разы, каб атрымаць 24? 32? 40?

**282.** Назваць усе лікі да 40, якія дзеляцца на 4.

**283.**

$(32:4)+(20:4)$ $\quad$ $(40:4)-(16:4)$ $\quad$ $3\times8:4$

$(24:4)+(27:3)$ $\quad$ $(28:4)+(36:4)$ $\quad$ $2\times10:4$

**284.**

$(32:4)+(9\times3)$ $\quad$ $(8:4)\times9$ $\quad$ $(36:6)\times3$

$(24:4)+(9\times4)$ $\quad$ $(16:4)\times10$ $\quad$ $8\times3:4$

$(40:4)+(7\times4)$ $\quad$ $(32:4)\times3$ $\quad$ $6\times4:3$

$45+(12:4)$

$93-(28:4)$

$41-(8\times4)$

**285.**

$(6\times4)-(18:3)$ $\quad$ $(21:3)+(36:3)$ $\quad$ $(8\times4)-(24:3)$

$(9\times4)+(8\times3)$ $\quad$ $(10\times4)-(27:3)$ $\quad$ $(7\times3)-(32:4)$

**286.** а) 24 *кг* круп расклалі пароўну ў 4 пакеты. Па колькі кілаграмаў паклалі ў кожны пакет?

б) 24 *кг* круп расклалі ў пакеты па 4 *кг* у кожны. У колькі пакетаў расклалі ўсе крупы?

Скласці дзве такія задачы.

**287.** Вучань купіў некалькі пер'яў па 3 кап. і ручку за 9 кап. За ўсю пакупку ён заплаціў 33 кап. Колькі пер'яў купіў вучань?

**288.** Мама купіла 5 *кг* круп па 4 руб. і 3 *кг* рысу. За ўсю пакупку яна заплаціла 38 руб. Колькі руб. каштаваў кілограм рысу?

**289.** У 4 бідонах было 35 *л* малака. Калі з першага бідона вылілі 3 *л*, то ў кожным бідоне асталося пароўну. Па колькі літраў малака асталося ў кожным бідоне?

**290.** У 4 брыгадах было 34 калгасніцы. Калі з адной брыгады двух калгасніц адправілі ў сталоўку прыгатаўляць абед, то ў кожнай брыгадзе калгасніц стала пароўну. Па колькі калгасніц стала ў кожнай брыгадзе?

**291.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| $x \times 2 = 18$ | $x \times 2 = 14$ | $3 \times x = 15$ | $2 \times x = 18$ |
| $x \times 3 = 18$ | $x \times 4 = 20$ | $4 \times x = 12$ | $3 \times x = 18$ |
| $x \times 4 = 16$ | $x \times 3 = 21$ | $4 \times x = 24$ | $4 \times x = 16$ |

### 4. Павелічэнне ў некалькі разоў.



**292.** На ніжняй галінцы 2 ігрушы, а на верхняй 3 разы па дзве ігрушы. Значыць на верхняй галінцы ў 3 разы больш ігруш, чым на ніжняй.

**293.** Узяць у левую руку 2 палачкі (пару палачак), а ў правую 2 пары палачак. У колькі разоў у правай руцэ палачак больш, чым у левай?

**294.** Нарысаваць на адным радку 4 кружочкі, а на другім у 3 разы больш.

**295.** Пяро каштуе 3 кап., а аловак у 4 разы даражэй. Колькі каштуе аловак?

**296.** Вучань заплаціў за пяро 3 кап., а за ручку ў 4 разы даражэй. Колькі заплаціў ён за ручку?

**297.** У Ігара 3 трусы, а ў гуртку юнатаў трусоў у 10 разоў больш. Колькі трусоў у гуртку юнатаў?



**298.** Сыну 3 гады, а маці ў 10 разоў старэй сына. Колькі гадоў маці?

**299.** Ваня знайшоў 4 грыбы, а яго бацька ў 9 разоў больш. Колькі грыбоў знайшлі яны разам?

**300.** а) У нашым калгасе выкапалі два калодзежы: адзін глыбінёй у 3 *м*, а другі на 4 *м* глыбей. Якая глыбіня другога калодзежа?

б) У суседнім калгасе таксама выкапалі два калодзежы: адзін глыбінёй у 3 *м*, а другі ў 4 разы глыбей. Якая глыбіня другога калодзежа?

**301.** У адным бідоне 3 *л* карасіну, а ў другім у 8 разоў больш. Колькі ўсяго карасіну ў двух бідонах?

**302.** Дзіця спала днём 2 гадзіны, а ноччу ў 5 разоў больш. Колькі ўсяго гадзін спала дзіця?

**303.** К святу вучні зрабілі для дзіцячага сада чырвоныя сцягі. Вялікіх сцягоў яны зрабілі 8, а маленькіх у 4 разы больш; чацвертую частку ўсіх сцягоў зрабілі дзеці II класа. Колькі сцягоў зрабілі дзеці II класа?

**304.** Павялічыць 4 у 5 разоў; у 7 разоў; у 9 разоў.
Павялічыць 3 у 6 разоў; у 8 разоў; у 9 разоў.
Які лік больш 4 у 7 разоў?
Які лік больш 4 у 9 разоў?

**305.**

| | | |
|---|---|---|
| $4 \times 1 = 1 \times 4$ | $4 \times 5 = ? \times ?$ | $4 \times 8 = ? \times ?$ |
| $4 \times 2 = ? \times ?$ | $4 \times 6 = ? \times ?$ | $4 \times 9 = ? \times ?$ |
| | $4 \times 7 = ? \times ?$ | $4 \times 10 = ? \times ?$ |

**306.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| $1 \times 4$ | $3 \times 4$ | $5 \times 4$ | $7 \times 4$ | $9 \times 4$ |
| $2 \times 4$ | $4 \times 4$ | $6 \times 4$ | $8 \times 4$ | $10 \times 4$ |

**307.** Калі атрымаем больш: калі 4 павялічым на 8 ці калі 4 павялічым у 8 разоў? На колькі больш?

**308.** Да Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі з нашай вёскі ў сярэдняй школе навучалася 4 хлопчыкі і 2 дзяўчынкі, а ў гэтым годзе хлопчыкаў у сярэдняй школе навучаецца ў 4 разы больш, а дзяўчынак на 17 больш, чым раней. Колькі дзяцей з нашай вёскі навучаецца ў цяперашнім годзе ў сярэдняй школе?

**309.** Для школы вазілі дровы 3 дні: у першы дзень прывезлі 3 вазы, у другі дзень у 4 разы больш, чым у першы, а ў трэці дзень на 4 вазы больш, чым у другі. Колькі вазоў дроў прывезлі для школы ў трэці дзень? Колькі вазоў дроў прывезлі для школы за 3 дні?

### 5. Множанне 5. Дзяленне на 5.

**310.** Хлопчык заплаціў за аловак

Колькі каштуе аловак?



**311.** Запісаць рашэнне папярэдняй задачы двума спосабамі (складаннем і множаннем).

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 10 | 15 | | | | | | | 50 |

**312.** Начарціць у сшытках такую таблічку і паставіць у пустыя клеткі прапушчаныя лікі (прыкладаючы па 5).

Лічыць пяткáмі да 50 (пяць, дзесяць, ...).

**313.**

5× 4=(5×2)+(5×2)=20
5× 6=(5×3)+(5×?)
5× 8=(5×?)+(5×?)
5×10=(5×?)+(5×?)
5× 5=(5×2)+(5×?)
5× 7=(5×4)+(5×?)
5× 9=(5×?)+(5×?)

**314.** У школе 8 класаў. Кожны клас падпісаўся на 5 білетаў латарэі Асоавіяхіма. На колькі білетаў падпісалася ўся школа?

**315.** Дакончыць табліцу множання 5:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 5×1= 5 | 5×3 | 5×5 | 5×7 | 5× 9 |
| 5×2=10 | 5×4 | 5×6 | 5×8 | 5×10 |



**316.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 5× 3+ 7 | 5× 7− 8 | 5×6− 7 | 3×5+18 |
| 5× 6− 8 | 5× 8− 6 | 5×7+ 8 | 5×3+36 |
| 5× 2+ 9 | 5× 5+ 9 | 5×9− 6 | 4×5+63 |
| 5× 4− 7 | 5×10− 7 | 5×8− 8 | 5×5−19 |
| 5×10−18 | 5× 6−17 | 5×5+68 | 5×9−23 |

**317.**

(5× 3)+(4×3)  (5×6)+(90 : 30)

(5×10)−(4×4)  (5×9)−( 3× 9)

5×7−18  5×8 : 4  5×5−19  4×6+60

**318.** Купілі 4 *кг* ігруш па 5 руб. за 1 *кг* і 7 *кг* яблык па 3 руб. за 1 *кг*. На што зрасходавалі больш грошай і на колькі рублёў?

**319.** За 3 дзіцячыя крэслы заплацілі 15 руб. Колькі каштуюць 5 такіх крэслаў? 8 крэслаў? 7 крэслаў?

**320.** На чатырох падводах павезлі пароўну 20 мяшкоў вапны. Колькі мяшкоў вапны можна павезці на 5 такіх-жа падводах? на 7 падводах? на 10 падводах?

**321.** Брыгада калгаснікаў сабрала 45 мяшкоў бульбы. Па бульбу прыехала 6 падвод. На кожную падводу паклалі па 5 мяшкоў. Колькі мяшкоў бульбы асталося на полі?

**322.** Вучань у першы дзень прачытаў 5 старонак кніжкі, а ў другі дзень у 3 разы больш. Асталося яму прачытаць яшчэ 7 старонак. Колькі старонак у кніжцы?

**323.** Два веласіпедысты выехалі адначасова насустрач адзін другому. Адзін з іх праязджаў у 1 сек. 4 *м*, другі 5 *м*. Праз 9 сек. яны сустрэліся. Якая адлегласць была паміж імі спачатку?





**324.** $(20:4)\times 9$ $(27:3-4)\times 7$ $(100-95)\times 9$
$(15:3)\times 8$ $(18:9+3)\times 6$ $(72-67)\times 8$
$(16:4)\times 5$
$(12:4)\times 5$

**325.** $(8\times 4)-(7\times 3)$ $(9\times 3)+(6\times 4)$
$(7\times 4)-(8\times 3)$ $(8\times 4)+(9\times 3)$
$(27:3)+(36:4)$ $(36:4)\times 2+27$
$(32:4)+(21:3)$ $(24:3)\times 4+39$

**326.** На колькі пятачкоў можна размяніць манету ў 20 кап.? у 15 кап.?

**327.** 5 паўтарыць 8 разоў — колькі атрымаецца? Колькі разоў 5 змяшчаецца ў 40?

**328.** $5\times 6$ $5\times 9$ $5\times 5$ $5\times 10$ $5\times 7$
$30:5$ $45:5$ $25:5$ $50:5$ $35:5$

**329.** Праверыць, ці правільна зроблены прыклады:
$15:5=3$ $5\times 3=15$
$30:5=6$ $40:5=8$ $50:5=10$
$25:5=5$ $35:5=7$ $45:5=9$

**330.** Рашыць і праверыць прыклады множаннем:
$20:5$ $35:5$ $15:5$ $25:5$ $15:3$
$50:5$ $45:5$ $30:5$ $40:5$ $10:5$

**331.** Сцёрка каштуе 5 кап. Колькі дадуць такіх сцёрак на 25 кап.? на 45 кап.?

**332.** У Вані 1 руб. Ён хоча купіць кістачку за 60 кап., а на астатнія грошы фарбы па 5 кап. за адну фарбу. Колькі фарбаў зможа купіць Ваня?

**333.** Брат купіў пяцікапеечных марак на 45 кап., а сястра на 35 кап. На колькі марак больш купіў брат?

**334.** $(15:5)+(10:5)$ $(25:5)+(5\times 3)$ $(45:5)+(5\times 9)$
$(30:5)+(50:5)$ $(35:5)+(5\times 4)$ $(40:5)+(5\times 7)$
$(40:5)-(20:5)$ $(50:5)+(5\times 8)$ $(35:5)+(5\times 6)$



**335.** $(85-35):5$ $(84-79)\times(45:5)$ $(25:5)\times(35:5)$
$(100-65):5$ $(17+18):(10:2)$ $(42-37)\times(91-86)$
$(90-45):5$ $(18+22):(15:3)$ $(61-52)\times(83-78)$

**336.** $x\times 5=45$ $x\times 5=35$ $5\times x=40$ $4\times x=40$
$x\times 4=36$ $x\times 3=21$ $4\times x=32$ $4\times x=28$
$x\times 3=27$ $x\times 4=24$ $5\times x=35$ $3\times x=27$

**337.** $5\times 1=1\times 5$ $5\times 3=?\times ?$ $5\times 6=?\times ?$ $5\times 8=?\times ?$
$5\times 2=?\times ?$ $5\times 4=?\times ?$ $5\times 7=?\times ?$ $5\times 9=?\times ?$

**338.** $1\times 5$ $3\times 5$ $5\times 5$ $7\times 5$ $9\times 5$
$2\times 5$ $4\times 5$ $6\times 5$ $8\times 5$ $10\times 5$

**339.** Вяроўку даўжынёй у 15 *м* разрэзалі на 5 роўных частак. Колькі метраў у кожнай частцы?

**340.** а) Купілі 5 *м* тканіны па 4 руб. за 1 *м*. Колькі страцілі грошай? Рашыць задачу і запісаць рашэнне.

б) За 5 *м* тканіны заплацілі 20 руб. Закончыць задачу, рашыць і запісаць рашэнне.

**341.** Які лік трэба паўтарыць 5 разоў, каб атрымаць 25? 35? 40?

**342.** Напісаць усе лікі да 50, якія дзеляцца на 5.

**343.** $(45:5)+(15:5)$ $(3\times 10):(25:5)$ $(5:5)\times 8+92$
$(30:5)+(35:5)$ $(10\times 4):(15:3)$ $(10:5)\times 6+68$
$(50:5)-(40:5)$ $(4\times 5):(20:4)$ $(15:5)\times 7+49$

**344.** Брыгада ў 5 касцоў за ўдарную работу атрымала 35 руб. прэміі. Па колькі рублёў прышлося кожнаму касцу?

**345.** Знайсці пятую частку ад 45, ад 30.

**346.** На ўчастку расло 45 дрэў; адну пятую частку гэтых дрэў спілавалі. Колькі дрэў асталося расці на ўчастку?

**347.** Упрыгожанні для ёлкі каштавалі 50 руб. Адну пятую частку гэтых грошай зрасходавалі на пакупку 5 аднолькавых шкляных шароў. Колькі каштаваў кожны шар?

**348.** Адна брыгада рабочых у 5 чалавек зарабіла 45 руб., а другая — у 4 чалавекі — 40 руб. У якой брыгадзе кожны рабочы зарабіў больш і на колькі больш?

**349.** Перапісаць у сшытак тыя лікі, якія дзеляцца на 5: 35; 17; 49; 15; 3; 10; 50; 12; 30; 20; 40; 5.

**350.** 5 табурэтак каштуюць 20 руб. Колькі такіх табурэтак можна купіць на 16 руб.?

**351.** У 5 слоіках змяшчаецца 20 *кг* мёду. Колькі такіх слоікаў патрэбна для 12 *кг* мёду?

**352.** 5 маткоў нітак каштуюць 50 кап. Колькі маткоў такіх нітак можна купіць на 80 кап.?

**353.** Купілі 48 *м* палатна; з 23 *м* пашылі навалачкі, а з астатняга палатна пашылі 5 просцін. Колькі метраў палатна пайшло на кожную прасціну?

**354.**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 15 : 5 | 12 : 3 | 20 : 5 | 8 : 2 | 10 : 5 | 5 : 5 |
| 15 : 3 | 12 : 4 | 20 : 4 | 8 : 4 | 10 : 2 | 4 : 4 |

**355.** Ваня сабраў 18 шклянак суніц, а яго сястра 12 шклянак. Пятую частку ўсіх ягад пакінулі на яду, а астатнія высушылі. Колькі шклянак ягад высушылі?

**356.** За 5 дзён школьны буфет зрасходаваў для кофе 25 *л* малака. Колькі літраў малака зрасходаваў буфет за 3 дні, калі кожны дзень расходаваў малака пароўну?

**357.** У школьную бібліятэку купілі 40 кніг. Адна пятая частка кніг была без пераплётаў. На колькі менш было кніг без пераплётаў, чым у пераплётах?

---

**358.** а) За 5 гадз. работы трактар зрасходаваў 30 *л* карасіну. Па колькі літраў карасіну трактар расходаваў кожную гадзіну?

б) Трактар расходуе 5 *л* карасіну за 1 гадз. работы. За колькі гадзін ён расходуе 30 *л*?

**359.** Скласці задачу, у якой патрэбна 45 *кг* падзяліць на 5 роўных частак.



**360.** Скласці задачу, у якой патрэбна 45 *кг* падзяліць па 5 *кг*.

**361.** а) Пасадзілі 20 яблынь, у кожным радзе па 5 яблынь. Колькі атрымалася радоў?

б) Пасадзілі 20 яблынь у 4 рады. Па колькі яблынь пасадзілі ў кожным радзе?

**362.** За 6 *кг* яблык і 5 *кг* вінаграду заплацілі 87 руб. 1 *кг* яблык каштаваў 7 руб. Колькі каштаваў 1 *кг* вінаграду?

**363.** За 7 канвертаў і некалькі адкрытак хлопчык заплаціў 56 кап. Канверт каштаваў 3 кап., адкрытка каштавала 5 кап. Колькі адкрытак купіў хлопчык?

**364.** Для паліўкі агарода куплена 6 вёдзер па 5 руб. і 3 палівачкі. За ўсю пакупку заплацілі 54 руб. Колькі рублёў каштавала кожная палівачка?

**365.** Купілі 5 канвертаў па 3 кап. і некалькі марак па 30 кап. Колькі купілі марак, калі за ўсю пакупку заплацілі 75 кап.?

**366.** Вучні пасадзілі ў школьным садзе 42 кусты агрэсту ў 5 радоў. Калі ў адзін рад пасадзілі яшчэ 3 кусты агрэсту, то ў кожным радзе іх стала пароўну. Па колькі кустоў агрэсту стала ў кожным радзе?

**367.** 5 дзяцей лавілі рыбу і злавілі 36 рыб. Калі адзін з іх злавіў яшчэ 4 рыбы, то ў кожнага з іх рыб стала пароўну. Па колькі рыб стала ў кожнага з дзяцей?

### 6. Памяншэнне ў некалькі разоў.

**368.** Маленькая палоска роўна адной трэцяй частцы вялікай палоскі, значыць маленькая палоска ў 3 разы менш вялікай палоскі.

**369.** Адкласці на верхнім дроце лічыльнікаў 8 шарыкаў і падзяліць іх на 4 роўныя часткі. На другім дроце адкласці столькі шарыкаў, колькі іх у адной чацвертай частцы верхняга дроту. У колькі разоў на другім дроце менш шарыкаў, чым на верхнім?

**370.** Нарысаваць на адным радку 10 кружкоў, а на другім у 5 разоў менш. Як даведацца, колькі кружкоў патрэбна нарысаваць на другім радку?

**371.** На адной талерцы 8 яблык, а на другой у 2 разы менш. Колькі яблык на другой талерцы?



**372.** На аўтамабіль паклалі 24 мяшкі жыта, а на падводу ў 3 разы менш. Колькі мяшкоў жыта паклалі на падводу?

**373.** Бацьку 32 гады, сын у 4 разы маладзей бацькі. Колькі гадоў сыну?

**374.** У класе стаяць старыя і новыя парты. Старых парт 16, а новых у 4 разы менш. Колькі ў класе новых парт? Колькі ў класе старых і новых парт разам?

**375.** З аднаго боку вёскі 27 дамоў, а на другім у 3 разы менш. Колькі дамоў у вёсцы?

**376.** З аднаго парніка знялі 30 агуркоў, з другога ў 5 разоў менш. Колькі агуркоў знялі з абодвух парнікоў разам?

**377.** У садзе было 35 яблынь, а ігруш у 5 разоў менш. Колькі ўсяго дрэў у садзе?

### 7. Множанне 6. Дзяленне на 6.

**378.** Начарціць таблічку і паставіць у пустых клетках прапушчаныя лікі, прыкладаючы па 6.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 12 | | | | | | | | |

**379.** $6\times6=(6\times3)+(6\times3)$. Запісаць па гэтаму ўзору, як лягчэй палічыць: $6\times4$; $6\times8$.



**380.** $6\times5=(6\times3)+(6\times2)$. Запісаць па гэтаму ўзору, як лягчэй палічыць: $6\times7$; $6\times9$.

**381.** $(6\times5)+(6\times2)=42$; $6\times7=42$. Запісаць па гэтаму ўзору:

$(6\times3)+(6\times1)=6\times?$ $(6\times8)+(6\times2)=6\times?$

$(6\times5)+(6\times3)=6\times?$ $(6\times4)+(6\times2)=6\times?$

$(6\times10)-(6\times1)=6\times?$

**382.** Запісаць табліцу множання 6:

$6\times1=6$ $6\times2=?$ $6\times3=?\ldots$

**383.** $(6\times3)+(6\times5)$ $(6\times3)+(6\times6)$

$(6\times7)+(6\times3)$ $(6\times10)-(6\times7)$

$(6\times8)-(6\times5)$ $(6\times2)+(6\times9)$

**384.** На працягу тыдня вучні вучацца 6 дзён. Колькі дзён вучні вучацца на працягу 2 тыдняў? на працягу 4 тыдняў? на працягу 8 тыдняў?

**385.** На фабрыках Японіі работніцы працуюць 14 гадз. у дзень, а ў нас па 8 гадз. На колькі гадзін больш працуе японская работніца ў 6 дзён?

**386.** Карова пры дрэнным доглядзе давала 6 *л* малака ў дзень, а пры добрым доглядзе стала даваць у 3 разы больш. На колькі літраў павялічыўся штодзённы ўдой?

**387.** На пакупку сатыну і паркалю зрасходавалі 58 руб. Сатыну купілі 7 *м* па 6 руб. На колькі рублёў купілі паркалю?

**388.** З 34 *м* тканіны пашылі 6 кашуль і 4 халаты. На кожную кашулю пайшло па 3 *м* тканіны. Колькі метраў пайшло на кожны халат?

**389.** $100-(6\times8)$ $39+(6\times6)$ $(6\times9)+(5\times7)$

$37+(6\times3)$ $100-(6\times1)$ $(6\times3)+(5\times3)+(4\times3)$

$51-(6\times4)$ $90-(6\times7)$ $(6\times5)+(5\times5)+(4\times5)$

$48+(6\times5)$ $27+(6\times9)$ $(4\times8)+(3\times6)-(6\times7)$

**390.** а) Павялічыць 6 у 7 разоў. б) Павялічыць 6 на 7 адзінак.

**391.** Скласці задачу, у якой трэба 6 павялічыць у 3 разы.

---

**392.** У маці было 12 арэхаў. Яна дала іх дзецям, кожнаму па 6 арэхаў. Колькі дзяцей атрымалі арэхі?

**393.** Колькі разоў можна адымаць па 6 ад 18?

Колькі шасцёрак у 18? у 12? у 24?

**394.** Колькі разоў можна адымаць па 6 ад 30? Колькі разоў 6 змяшчаецца ў 30?

**395.** Пеця купіў на 60 кап. малюнкаў па 6 кап. за малюнак. Прадавец даў яму 10 малюнкаў. Ці правільна разлічыў прадавец?

**396.** 6×2 6×3 6×4 6×5 6×8

12 : 6 18 : 6 24 : 6 30 : 6 48 : 6

**397.** 42 : 6=7; 48 : 6=8; 54 : 6=9; 60 : 6=10.

Праверыць множаннем, ці правільна зроблена дзяленне.

**398.** Майстэрня атрымала ад школы заказ на 52 парты. Першыя 2 дні майстэрня рабіла па 5 парт у дзень, а затым стала рабіць па 6 парт у дзень. За колькі дзён майстэрня выканае ўвесь заказ?

**399.** У адным атрадзе было 24 піонеры, а ў другім 36 піонераў. Яны пастроіліся на прагулку па 6 чалавек у рад. Колькі радоў утварылі два атрады разам? Рашыць задачу двума спосабамі.

**400.** Ад сяла да горада 30 *км*. Пешаход прайшоў гэтую адлегласць за 6 гадз. Якую адлегласць ён прайшоў за 5 гадз.?

**401.**

| | | |
|---|---|---|
| 12 : 6+18 | 30 : 6+45 | 48 : 6+24 |
| 42 : 6+28 | 60 : 6+20 | 36 : 6+48 |
| (91—55) : 6 | (72—42) : 6 | (81—69) : 6 |
| (83—59) : 6 | (75—57) : 6 | (73—37) : 6 |
| 24 : 6+28 | (51—27) : 6 | (83—29) : 6 |
| 54 : 6+36 | (63—45) : 6 | (67—25) : 6 |



**402.**

| | | |
|---|---|---|
| 6×1=1×6=6 | 6×3=3×6 | 6×5=5×6 |
| 6×8=8×6 | 6×2=2×6 | 6×4=4×6 |
| 6×7=7×6 | 6×9=9×6 | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1×6 | 3×6 | 5×6 | 7×6 | 9×6 |
| 2×6 | 4×6 | 6×6 | 8×6 | 10×6 |

---

**403.** Для школьнай сталоўкі запаслі 12 *кг* цукру на 6 вучэбных дзён. Па колькі кілаграмаў цукру можа расходаваць сталоўка ў дзень, калі яна будзе расходаваць кожны дзень пароўну? Рашыць задачу і праверыць рашэнне.

**404.** Які лік трэба паўтарыць 6 разоў, каб атрымаць 18? 24? 30?

**405.** Праверыць, ці правільна зроблена дзяленне:

| | | |
|---|---|---|
| 12 : 6=2 | 60 : 6=10 | 42 *кг* : 6=7 *кг* |
| 18 : 6=3 | 30 : 6= 5 | 30 кап. : 6=5 кап. |
| 24 : 6=4 | 54 : 6= 9 | 48 *л* : 6=8 *л* |

**406.**

| | |
|---|---|
| (18 : 6)+(24 : 6) | (24 : 6)+(48 : 6) |
| (30 : 6)+(60 : 6) | (54 : 6)+(12 : 6) |
| (48 : 6)+(36 : 6) | (42 : 6)+(54 : 6) |

**407.**

| | |
|---|---|
| (48 : 6)+ (3×7) | (24 : 6)×(42 : 6) |
| (54 : 6)+ (5×6) | (36 : 6)×(54 : 6) |
| (30 : 6)×(24 : 6) | (18 : 6)×(48 : 6) |

**408.** У класе 36 вучняў. У пачатку года выдатна вучылася шостая частка вучняў, а к канцу года «выдатнікаў» стала на 3 больш. Колькі стала «выдатнікаў» к канцу года?

**409.** Знайсці шостую частку ад 42; ад 24; ад 60.

**410.**

| | |
|---|---|
| (48 : 6)+(12 : 6) | (12 : 6)+(36 : 4)+(27 : 3) |
| (24 : 6)+(24 : 4) | (48 : 6)+(36 : 6)+(24 : 6) |

(30 : 6)×(30 : 5)

(30 : 6)×(54 : 6)

**411.** Адзін рабочы за 6 дзён зарабіў 54 руб., а другі, ударнік, кожны дзень зарабляў на 13 руб. больш. Колькі рублёў зарабляў у дзень рабочы-ўдарнік?

**412.** 6; 8; 9; 12; 15; 16; 24. Выпісаць лікі, якія дзеляцца аднaчасова на 3 і на 4.

**413.** 8; 12; 16; 18; 24; 30; 36. Выпісаць лікі, якія дзеляцца аднaчасова на 4 і на 6.

**414.** К Першаму мая школа зрабіла 6 аднолькавых сцягоў з 12 *м* чырвонай тканіны. Патрэбна яшчэ 8 такіх сцягоў. Колькі патрэбна на іх тканіны?

**415.** Каб вывезці з склада 58 мяшкоў мукі, прыехала 9 падвод. На першыя 5 падвод паклалі па 6 мяшкоў. Па колькі мяшкоў трэба пакласці на кожную з астатніх падвод?

**416.** Купілі тканіны па 6 руб. за метр. Заплацілі за яе 36 руб. Палову тканіны патрацілі на тужурку. Колькі тканіны засталося?

**417.** За стол заплацілі 54 руб., а за кляёнку да яго ў 6 разоў менш. Колькі каштуе стол і кляёнка разам?

**418.** Дзіцячая шубка каштуе 48 руб., а шапачка ў 6 разоў дзешавей. Колькі каштуе шапачка і шубка разам?

**419.** Дзве кватэры павінны заплаціць за карыстанне электрычнасцю 20 руб. Колькі рублёў павінна заплаціць кожная кватэра, калі ў адной кватэры было 4 лямпачкі, а ў другой 6?

**420.** Два рабочыя атрымалі 54 руб. Колькі рублёў павінен атрымаць кожны з іх, калі адзін працаваў 2 дні, а другі 4 дні?

**421.** Я задумаў лік, павялічыў яго ў 6 разоў і атрымаў 42. Які лік я задумаў?

**422.** Я задумаў лік, паменшыў яго ў 3 разы і атрымаў 6. Які лік я задумаў?

**423.** Які лік у 6 разоў менш 18? Паменшыць 54 у 6 разоў. Скласці задачу, у якой патрэбна 24 *м* паменшыць у 6 разоў.



## 8. Кратнае параўнанне.

**424.** Выразаць з паперы дзве такія палоскі і вымераць большую палоску маленькай. Колькі разоў маленькая палоска змяшчаецца ў вялікай? Маленькая палоска змяшчаецца ў вялікай 4 разы, значыць вялікая палоска ў 4 разы больш маленькай, а маленькая палоска ў 4 разы менш вялікай.

**425.** Колькі разоў па 5 кап. змяшчаецца ў 20 кап.? У колькі разоў 20 кап. больш 5 кап.? У колькі разоў 5 кап. менш 20 кап.?

**426.** У садзе расце 42 яблыні і 6 ігрушавых дрэў. У колькі разоў ігрушавых дрэў менш, чым яблынь?

**427.** Грузавік вязе 48 мяшкоў жыта, а конь 6. У колькі разоў грузавік вязе больш жыта, чым конь?

**428.** Бацьку 32 гады, сыну 4 гады. У колькі разоў бацька старэй за сына?

**429.**

| У колькі разоў: | У колькі разоў: |
|---|---|
| 12 больш 6? | 3 менш 15? |
| 35 „ 5? | 5 „ 40? |
| 24 „ 6? | 6 „ 24? |
| 48 „ 6? | 6 „ 54? |
| 27 „ 3? | 4 „ 36? |

**430.** На ўчастку пасадзілі 6 мяшкоў бульбы, а сабралі 54 мяшкі. Паставіць пытанне і рашыць задачу.

**431.** У сярэдзіне лета ноч цягнецца 8 гадз. У колькі разоў летняя ноч карацей дня?

**432.** Пры дрэнным доглядзе 6 кароў давалі ў дзень 42 *л* малака, а пры добрым доглядзе кожная стала даваць па 14 *л* у дзень. У колькі разоў больш стала даваць кожная карова малака ў дзень пры добрым доглядзе?

**433.**

$x\times6=42$ $x\times5=30$ $6\times x=48$

$x\times6=24$ $x\times6=30$ $5\times x=45$

$x\times8=24$ $x\times4=36$ $6\times x=54$

$x\times4=32$ $6\times x=60$ $6\times x=30$

## 9. Множанне 7. Дзяленне на 7.

**434.** Начарціць таблічку і паставіць у пустыя клеткі прапушчаныя лікі, прыкладаючы па 7.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | 14 | | | | | | | | |

**435.** У тыдні 7 дзён. Колькі дзён у 2 тыднях? у 3 тыднях?

$$7\times4=(7\times2)+(7\times2)=28$$

**436.** Запісаць, як можна палічыць: $7\times6$; $7\times8$; $7\times9$; $7\times5$; $7\times10$; $7\times7$.

**437.** Скласці табліцу множання 7.

**438.** $(7\times3)+(7\times2)=35$; $7\times5=35$. Запісаць па гэтаму ўзору:

$(7\times2)+(7\times2)$ $(7\times4)+(7\times3)$ $(7\times6)+(7\times1)$

$(7\times4)+(7\times4)$ $(7\times5)+(7\times5)$ $(7\times10)-(7\times1)$

**439.** Гаспадыня купіла 4 *кг* мяса па 7 руб. за 1 *кг*. Колькі яна атрымала рэшты з 30 руб.?

**440.** Школа загатовіла на 6 месяцаў 50 вазоў дроў. У месяц яна расходавала па 7 вазоў. Колькі вазоў дроў асталося ад запасу?

**441.**

$7\times8+9$ $7\times9-7$ $7\times3-4$

$7\times5-6$ $7\times7+8$ $7\times6-8$

$7\times10-42$ $7\times9-29$ $7\times8-38$

**442.**

$(7\times7)+(45:5)$ $(6\times10)+(7\times2)$

$(7\times5)+(6\times3)$ $(7\times3)+(6\times6)$

$(7\times9)-(6\times8)$ $(7\times8)-(7\times4)$

**433.**

| | | |
|---|---|---|
| $x \times 6 = 42$ | $x \times 5 = 30$ | $6 \times x = 48$ |
| $x \times 6 = 24$ | $x \times 6 = 30$ | $5 \times x = 45$ |
| $x \times 8 = 24$ | $x \times 4 = 36$ | $6 \times x = 54$ |
| $x \times 4 = 32$ | $6 \times x = 60$ | $6 \times x = 30$ |

### 9. Множанне 7. Дзяленне на 7.

**434.** Начарціць таблічку і паставіць у пустыя клеткі прапушчаныя лікі, прыкладаючы па 7.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | 14 | | | | | | | | |

**435.** У тыдні 7 дзён. Колькі дзён у 2 тыднях? у 3 тыднях?

$$7 \times 4 = (7 \times 2) + (7 \times 2) = 28$$

**436.** Запісаць, як можна палічыць: $7 \times 6$; $7 \times 8$; $7 \times 9$; $7 \times 5$; $7 \times 10$; $7 \times 7$.

**437.** Скласці табліцу множання 7.

**438.** $(7 \times 3) + (7 \times 2) = 35$; $7 \times 5 = 35$. Запісаць па гэтаму ўзору:

| | | |
|---|---|---|
| $(7 \times 2) + (7 \times 2)$ | $(7 \times 4) + (7 \times 3)$ | $(7 \times 6) + (7 \times 1)$ |
| $(7 \times 4) + (7 \times 4)$ | $(7 \times 5) + (7 \times 5)$ | $(7 \times 10) - (7 \times 1)$ |

**439.** Гаспадыня купіла 4 *кг* мяса па 7 руб. за 1 *кг*. Колькі яна атрымала рэшты з 30 руб.?

**440.** Школа загатовіла на 6 месяцаў 50 вазоў дроў. У месяц яна расходавала па 7 вазоў. Колькі вазоў дроў асталося ад запасу?

**441.**

| | | |
|---|---|---|
| $7 \times 8 + 9$ | $7 \times 9 - 7$ | $7 \times 3 - 4$ |
| $7 \times 5 - 6$ | $7 \times 7 + 8$ | $7 \times 6 - 8$ |
| $7 \times 10 - 42$ | $7 \times 9 - 29$ | $7 \times 8 - 38$ |

**442.**

| | |
|---|---|
| $(7 \times 7) + (45 : 5)$ | $(6 \times 10) + (7 \times 2)$ |
| $(7 \times 5) + (6 \times 3)$ | $(7 \times 3) + (6 \times 6)$ |
| $(7 \times 9) - (6 \times 8)$ | $(7 \times 8) - (7 \times 4)$ |



**443.** Два матацыклісты ехалі адзін другому насустрач. Адзін ехаў са скорасцю 6 *м* у 1 сек., а другі 7 *м* у 1 сек. На якой адлегласці яны былі спачатку, калі сустрэліся праз 7 сек.?

**444.** Брат і сястра рашалі прыклады. Брат рашыў 7 слупкоў па 4 прыклады, а сястра 6 слупкоў па 5 прыкладаў. Хто з іх рашыў больш прыкладаў і на колькі?

**445.** Для рабочых пабудавалі два чатырохпавярховыя дамы. У кожным паверсе першага дома было па 7 кватэр, а ў кожным паверсе другога дома па 9 кватэр. Колькі ўсяго кватэр у абодвух дамах?

**446.** Адна калгасніца прадала 7 збаноў малака па 3 *л* у кожным, а другая 9 збаноў па 2 *л*. Якая з іх прадала больш малака і на колькі?

---

**447.** Колькі фарбаў па 7 кап. за кожную можна купіць на 14 кап.?

**448.** Колькі разоў ад 21 можна адымаць па 7? Колькі сямёрак у 21?

**449.** Колькі разоў 7 змяшчаецца ў 28? У колькі разоў 28 больш 7?

**450.** Скласці табліцу дзялення 7.

$14 : 7 = 2$ $\quad 21 : 7 = ?$ $\quad 28 : 7 = ?$

**451.** Кракет каштуе 35 руб., а шашкі 7 руб. У колькі разоў кракет каштуе даражэй шашак?

**452.**

| | |
|---|---|
| $(49 : 7) + (14 : 7)$ | $(7 \times 5) - (42 : 7)$ |
| $(6 \times 6) + (21 : 7)$ | $(7 \times 9) - (35 : 7)$ |
| $(9 \times 6) + (63 : 7)$ | $(8 \times 6) - (70 : 7)$ |

**453.** У швейнай майстэрні з 70 *м* тканіны пашылі 7 дзіцячых сукенак і некалькі коўдраў. На кожную сукенку пайшло па 2 *м* тканіны, а на кожную коўдру па 7 *м*. Колькі вышла коўдраў?

**454.** Купілі некалькі кілограмаў цукерак па 7 руб. за 1 *кг* і 10 *кг* яблык па 4 руб. за 1 *кг*. На ўсю пакупку зрасходавалі 89 руб. Колькі купілі цукерак?

455. У гаспадыні 81 руб. На рынку прадаецца бульба па 5 руб. за 1 *кг* і морква па 9 руб. за 1 *кг*. Колькі яна можа купіць на свае грошы морквы, калі бульбы купіць 9 *кг*?

456. (5×4) + (6×4) + (7×4) 82 − (9×6)
(35 : 5) + (42 : 6) + (28 : 7) 91 − (7×9)

457. (9×7) − (4×7) (6×7) − (7×6)
(7×7) − (8×6) (8×7) + (9×3)
(42 : 6)×(21 : 7)
(54 : 6)×(24 : 6)

458. 7×1 = 1×? 7×3 = ?×? 7×5 = ?×?
7×2 = ?×? 7×4 = ?×? 7×6 = ?×?
7×8 = ?×?
7×9 = ?×?

459. 1×7 3×7 5×7 7×7 9×7
2×7 4×7 6×7 8×7 10×7

---

460. За 7 канвертаў заплацілі 42 кап. Колькі каштуе 1 канверт? Рашыць задачу і праверыць рашэнне множаннем.

461. Які лік трэба паўтарыць 7 разоў, каб атрымаць 21? 28? 35?

462. Праверыць, ці правільна зроблена дзяленне:
21 *м* : 7 = 3 *м*; 63 *кг* : 7 = 9 *кг*; 49 *л* : 7 = 7 *л*;
42 *см* : 7 = 6 *см*; 28 *кг* : 7 = 4 *кг*; 56 руб. : 7 = 8 руб.

463. Запісаць падрад усе лікі да 70, якія дзеляцца на 7.

464. (14 : 7)×(28 : 7) (35 : 7)×(70 : 7) (42 : 7)×9
(35 : 7)×(63 : 7) (42 : 7)×(56 : 7) (63 : 7)×6

465. Даны лікі: 6; 12; 14; 21; 35; 42; 45; 48; 60; 63. Выпісаць тыя з іх, якія дзеляцца на 7.

466. За 4 *м* сатыну заплацілі 24 руб., а за 7 *м* паркалю 21 руб. У колькі разоў 1 *м* сатыну даражэй 1 *м* паркалю?

467. 7 *м* тканіны каштуюць 42 руб. Колькі трэба заплаціць за 5 *м* гэтай тканіны?

468. Два сталяры атрымалі 63 руб.; адзін з іх зрабіў 3 шырмы, а другі 4. Колькі рублёў павінен атрымаць за работу кожны з іх?



469. У садзе 35 тополяў, а ліп у 7 разоў менш. Колькі ўсяго тополяў і ліп у садзе?

470. Для сталоўкі загатовілі 35 *кг* масла. Адну сёмую частку масла зрасходавалі. Колькі масла асталося?

471. У колькі разоў 21 больш 7? 56 больш 7?

472. Паменшыць 42 у 7 разоў; у 6 разоў. У колькі разоў 7 менш 14? 35? 70?

473. Вага тавару з упакоўкай 30 *кг*. Упакоўка важыць 3 *кг*. На колькі кілаграмаў тавар цяжэй упакоўкі?

474. а) Я задумаў лік, павялічыў яго ў 7 разоў і атрымаў 28. Які лік я задумаў?

б) Я задумаў лік, паменшыў яго ў 7 разоў і атрымаў 5. Які лік я задумаў?

475. Кадка з маслам важыць 16 *кг*. Пустая кадка важыць 2 *кг*. У колькі разоў масла цяжэй кадкі?

476. Кніга ў пераплёце каштуе 10 руб., а без пераплёта 8 руб. У колькі разоў кніга даражэй пераплёта?

477. З 7 баразён, засаджаных адборнай бульбай, сабралі 56 кошыкаў бульбы, а з 6 баразён такой-жа даўжыні, засаджаных простай бульбай, сабралі толькі 24 кошыкі. Параўнаць ураджай адборнай і простай бульбы з кожнай баразны?

---

478. а) Садоўнік рассадзіў 56 яблынь па 7 яблынь у рад. Колькі радоў яблынь пасадзіў садоўнік?

б) Садоўнік рассадзіў 56 яблынь у 7 радоў пароўну. Па колькі яблынь пасадзіў садоўнік у кожны рад?

479. (49 : 7)× 3 (42 : 7)×5 (35 : 7)×8 (56 : 7)× 4
(21 : 7)×10 (63 : 7)×2 (28 : 7)×9 (70 : 7)×10
(54 : 6)× 7 (42 : 6)×7 (36 : 6)×7 (28 : 7)× 6
(35 : 7)× 5 (56 : 7)×5 (42 : 7)×4 (49 : 7)× 6

480. $x$×7 = 49 $x$×4 = 36 7×$x$ = 21 7×$x$ = 28
$x$×6 = 54 $x$×7 = 63 6×$x$ = 48 4×$x$ = 32
$x$×7 = 56 $x$×6 = 42 7×$x$ = 42 7×$x$ = 35

4*

**481.** $7\times8-27$ $5\times7+38$ $(92-43):7$ $(64-36):7$

$7\times9-46$ $8\times7+17$ $(81-25):7$ $(72-36):6$

$7\times6+39$ $4\times7+45$ $(100-65):7$ $(73-25):6$

## 10. Множанне 8. Дзяленне на 8.

**482.** Начарціць таблічку і паставіць у пустыя клеткі прапушчаныя лікі, прыкладаючы па 8.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | 16 | | | | | | | | |

**483.** У дзень Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі старэйшыя вучні школы ішлі на дэманстрацыю радамі па 8 чалавек у рад. Колькі чалавек ішло ў 2 радах? у 3 радах? у 5 радах? у 10 радах?

**484.** Запісаць, як лягчэй палічыць (па ўзору):

$8\times5=(8\times3)+(8\times2)=40$

$8\times3$ $8\times9$ $8\times4$ $8\times5$ $8\times7$

$8\times6$ $8\times2$ $8\times8$ $8\times10$ $8\times9$

**485.** Скласці табліцу множання 8:

$8\times1=8$ $8\times2=?$ $8\times3=?$

**486.** $(8\times3)+(8\times3)=8\times6=48$. Запісаць па ўзору:

$(8\times2)+(8\times1)=8\times3$ $(8\times4)+(8\times4)=8\times?$

$(8\times5)+(8\times1)=8\times?$ $(8\times5)+(8\times5)=8\times?$

$(8\times4)+(8\times3)=8\times?$ $(8\times2)+(8\times3)=8\times?$

**487.** Работніца зарабляла па 8 руб. у дзень. З заработка яна траціла на харчаванне 23 руб. у тыдзень. Колькі рублёў у кожны тыдзень у яе аставалася на іншыя выдаткі (у тыдні 6 працоўных дзён).

**488.** У мамы было 100 руб. Яна купіла 7 *кг* бульбы па 3 руб. за 1 *кг* і 2 *кг* капусты. Колькі каштуе 1 *кг* капусты, калі ў мамы пасля пакупкі асталося 69 руб.?

**489.** Аловак каштуе 8 кап., ручка 7 кап. Што і на колькі даражэй: 9 алоўкаў ці 10 ручак?



**490.** Сыну 8 год, бацька ў 4 разы старэй сына, а сястра на 20 год маладзей бацькі. Якая розніца ў гадах брата і сястры?

**491.** $(8\times8)-(7\times8)$ $(8\times5)-(7\times3)$ $(8\times7)+(8\times5)$

$(8\times6)+(7\times4)$ $(8\times9)-(6\times9)$ $(8\times10)-(7\times3)$

**492.** $(49:7)\times8$ $8\times3:6$ $(8\times4)+(7\times4)+(6\times4)$

$(40:5)\times6$ $9\times4:6$ $(8\times3)+(7\times3)+(6\times3)$

---

**493.** У вагон ставяць 8 коней. Колькі трэба вагонаў для 16 коней? для 24 коней?

**494.** $24:8$ $32:8$ $40:8$ $16:8$ $56:8$

$48:8$ $64:8$ $80:8$ $32:8$ $72:8$

**495.** $(40:8)+(24:8)$ $(64:8)+(48:8)$ $(32:8)\times(24:8)$

$(56:8)+(72:8)$ $(80:8)+(56:7)$ $(56:8)\times(28:4)$

**496.** Сыну 8 год. Маці на 24 гады старэй сына. У колькі разоў маці старэй сына?

**497.** Для дзіцячага сада купілі 10 маленькіх мячоў па 2 руб. і некалькі вялікіх па 8 руб. за мяч. За ўсе мячы заплацілі 68 руб. Колькі купілі вялікіх мячоў? Аб чым яшчэ можна даведацца?

**498.** Для сталоўкі купілі свініны па 8 руб. за 1 *кг* і бараніны па 7 руб. за 1 *кг*. За свініну заплацілі 56 руб., а за бараніну 63 руб. Колькі ўсяго кілограмаў мяса купілі для сталоўкі?

**499.** Купілі некалькі метраў тканіны па 8 руб. за 1 *м* і 4 *м* тканіны па 6 руб. за 1 *м*. За ўсю пакупку заплацілі 72 руб. Колькі метраў тканіны купілі па 8 руб.?

**500.** Два дні гаспадыня расходавала на корм курам па 7 руб. у дзень, а потым стала расходаваць па 8 руб. у дзень. На колькі дзён хопіць гаспадыні 54 руб.?

**501.** Ад кавалка сукна даўжынёй у 32 *м* адрэзалі кавалак даўжынёй у 8 *м*. На колькі метраў астаўшаяся частка кавалка даўжэй адрэзанай? У колькі разоў астаўшаяся частка кавалка сукна даўжэй адрэзанай?

**502.** 8×2=2×?  8×4=4×?  8×3=?×8  8×5=?×8

8×6=6×?  8×1=1×?  8×2=?×8  8×7=?×8

1×8  3×8  5×8  7×8  9×8

2×8  4×8  6×8  8×8  10×8

**503.** (7×8)−(6×7)  (6×8)−(8×6)

(9×8)−(6×9)  (8×8)−(7×7)

**504.** Даны лікі: 24 і 8; 8 і 48; 8 і 72; 56 і 8.

На колькі адзінак адзін з двух лікаў больш або менш другога і ў колькі разоў?

**505.** Скласці задачу, у якой патрэбна даведацца, на колькі адзінак адзін лік больш або менш другога.

**506.** Скласці задачу, у якой патрэбна даведацца, у колькі разоў адзін з двух лікаў больш або менш другога.

---

**507.** Дрот даўжынёй у 16 *м* разрэзалі на 8 роўных частак. Чаму роўна адна восьмая частка ўсяго дроту?

**508.** Хлопчык дзеліць 40 арэхаў 8 таварышам пароўну, кожнаму па 5 арэхаў. Ці правільна ён дзеліць?

**509.** Праверыць, ці правільна зроблена дзяленне:

48 *м* : 8=6 *м*;  56 *кг* : 8=7 *кг*;  40 ч. : 8=5 ч.;

32 *л* : 8=4 *л*;  72 *см* : 8=9 *см*;  64 *г* : 8=8 *г*;

80 руб. : 8=10 руб.;  24 кап. : 8=3 кап.

**510.** Напісаць табліцу дзялення на 8.

**511.** (32 : 8)×(40 : 8)  (80 : 8)×(64 : 8)  (21 : 7)×(35 : 7)

(40 : 8)×(56 : 8)  (72 : 8)×(24 : 8)  (56 : 7)×(63 : 7)

**512.** Калгаснікі спілілі ў лесе да абеду 39 дрэў, а пасля абеду на 6 дрэў менш. Спілаваныя дрэвы яны перавезлі ў вёску за 8 разоў. Па колькі дрэў яны перавозілі за адзін раз, калі кожны раз бралі пароўну?



**513.** (64 : 8)×(63 : 7)  (80 : 8)×(32 : 8)  (32 : 8)×6

(56 : 8)×(72 : 8)  (40 : 8)×(56 : 7)  (24 : 8)×7

(48 : 8)×9  (64 : 8)×4  (72 : 8)×7

**514.** За 8 *кг* ягад заплацілі 72 руб. Колькі гэтых ягад можна купіць на 45 руб.?

**515.** За 3 *м* тканіны заплацілі 24 руб. Колькі такой тканіны можна купіць на 64 руб.?

**516.** Брыгада землякопаў у першы дзень працавала 8 гадзін, а ў другі 7 гадзін. Якой даўжыні канаву выкапала брыгада за абодва дні, калі за першы дзень яна выкапала 48 *м* канавы?

**517.** Які лік трэба павялічыць у 8 разоў, каб атрымаць 72?

**518.** Які лік трэба паменшыць у 8 разоў, каб атрымалася 8?

**519.** Я задумаў лік, паменшыў яго ў 8 разоў, да атрыманага ліку прыбавіў 10 і атрымаў 14. Які лік я задумаў?

**520.** Я задумаў лік, павялічыў яго ў 8 разоў, да атрыманага ліку прыбавіў 9 і атрымаў 49. Які лік я задумаў?

**521.** У садзе працавалі спачатку 8 чалавек, а потым прышлі на работу яшчэ некалькі чалавек, і зараз у садзе працуе людзей у 3 разы больш, чым працавала спачатку. Колькі чалавек прышло працаваць у сад у другі раз?

**522.** У нашым раёне да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі было 3 пачатковыя школы; зараз школ у 7 разоў больш. На колькі школ зараз больш, чым было да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі?

**523.** У мяне 24 яблыкі. Ці магу я даць па 5 яблык 8 дзецям? а па 4? а па 3?

**524.** За 8 банак кансерваў заплацілі 64 руб. Колькі каштуюць 3 банкі кансерваў?

**525.** 3 цырульнікі за 7 гадз. работы атрымалі 63 руб. Колькі рублёў атрымліваў кожны цырульнік за 1 гадз. работы?

526. На 6 дзён для 2 кароў загатовілі 36 *кг* вотрубяў. Колькі кілаграмаў вотрубяў прыходзілася ў дзень на кожную карову?

527. Хлопчык купіў некалькі плітак фарбы па 8 кап. і кістачку за 42 кап. За ўсю пакупку ён заплаціў 90 кап. Колькі плітак фарбы купіў хлопчык?

528. а) Вучань купіў на 56 кап. некалькі алоўкаў па 8 кап. Колькі ён купіў алоўкаў?

б) Вучань купіў на 56 кап. 8 алоўкаў. Колькі каштуе адзін аловак?

529.

| | | | |
|---|---|---|---|
| (100—36) : 8 | (43+37) : 8 | (91—43) : 8 | (29+35) : 8 |
| (92—68) : 8 | (29+27) : 7 | (85—37) : 6 | (18+38) : 7 |
| (71—15) : 8 | (46+17) : 7 | (63—28) : 7 | (27+29) : 8 |

530.

| | | | |
|---|---|---|---|
| $x \times 8 = 64$ | $x \times 8 = 72$ | $x \times 7 = 42$ | $x \times 4 = 36$ |
| $x \times 7 = 49$ | $x \times 7 = 56$ | $x \times 8 = 56$ | $x \times 5 = 45$ |
| $x \times 6 = 36$ | $x \times 8 = 80$ | $x \times 6 = 42$ | $x \times 3 = 27$ |

### 11. Множанне 9. Дзяленне на 9.

531. Начарціць таблічку і паставіць у пустыя клеткі прапушчаныя лікі, прыкладаючы па 9.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | 18 | | | | | | | | |

532. Пара лыж каштуе 9 руб. Колькі каштуе 2 пары лыж? 3 пары?

533. Скласці табліцу множання 9.

534. На падводу паклалі 9 мяшкоў бульбы, а на грузавік у 8 разоў больш. На колькі мяшкоў больш паклалі на грузавік, чым на падводу?

535. За першую палову зімы ў вёсцы было паказана 9 кінокарцін, а за другую палову ў 3 разы больш. На колькі карцін менш было паказана за першую палову зімы?

536. У соўгасе 9 каменных дамоў, драўляных у 6 разоў больш. Колькі ўсяго дамоў у соўгасе?



537. Хлопчык збіраў у лесе грыбы. Ён знайшоў белых грыбоў у 5 разоў менш, чым падбярозавікаў. Колькі ўсіх грыбоў знайшоў хлопчык, калі белых ён знайшоў 9?



538. Два паязды рухаліся насустрач адзін другому па двух пуцях са скорасцю: адзін 7 *м* у секунду, другі 9 *м* у секунду. Праз 6 сек. яны сустрэліся. На якой адлегласці яны былі спачатку?

539. Купілі 7 пар канькоў па 9 руб. за пару. Заплацілі грошы ў касу і атрымалі рэшты 2 руб. Колькі рублёў было дана касіру?

540. У брыгадзе калгаснікаў 9 коней. На кожнага каня патрэбна загатовіць 9 вазоў сена, а загатовілі ўсяго 78 вазоў. Колькі вазоў сена патрэбна загатовіць яшчэ?

541.

| | |
|---|---|
| (9×9)—(9×6) | (9×7)—(6×9) |
| (9×8)—(7×6) | |
| (9×8)—(8×9) | (7×8)—(9×4) |
| (7×9)—(9×7) | |

542. 4 *кг* бульбы каштуюць 16 руб. Колькі каштуюць 9 *кг* бульбы?

543. Рабочы за 2 гадз. працы зрабіў 18 дэталей. Колькі такіх дэталей ён зможа зрабіць за 8-гадзінны працоўны дзень?

544.

| | | |
|---|---|---|
| 9× 2=?×9 | 9×7=?×9 | 9×3=?×9 |
| 9× 6=?×9 | 9×5=?×9 | 9×4=?×9 |
| 9×10=?×9 | 9×8=?×9 | |

**545.**

| | |
|---|---|
| (7×9)−(6×8) | (6×9)−(9×6) |
| (4×8)−(4×7) | (6×5)−(6×4) |
| (9×9)−(7×6) | (8×9)−(4×9) |
| (7×7)−(7×5) | (6×7)−(6×4) |

**546.** Дзеці прайшлі 9 *км* за 2 гадз. Колькі часу патрэбна дзецям, каб пры той-жа скорасці прайсці 18 *км*?

**547.** а) Запісаць па парадку, пачынаючы ад 9, першыя 10 лікаў, якія дзеляцца на 9.

б) Скласці і запісаць табліцу дзялення на 9.

**548.** З станцыі трэба перавезці 99 скрынак з таварам. На адну падводу можна пакласці 9 скрынак, а паслалі 8 падвод. Колькі падвод яшчэ трэба, каб перавезці астатні тавар?

**549.** 4 сумкі для кніг каштуюць 36 руб. Колькі такіх сумак можна купіць на 63 руб.?

**550.** Магазін прадаў 9 слоікаў павідла за 81 руб. Колькі каштаваў 1 *кг* павідла, калі ў кожным слоіку было па 3 *кг* павідла?

**551.** Калгасная пасека загатовіла для адпраўкі ў магазін 96 *кг* мёду. 42 *кг* мёду налілі ў слоікі па 7 *кг*, а астатні мёд разлілі па 9 *кг* у слоік. У колькі слоікаў разлілі ўвесь мёд?

**552.**

| | | |
|---|---|---|
| (72 : 9)×(27 : 9) | (63 : 9)×(18 : 9) | (45 : 9)×(81 : 9) |
| (54 : 9)×(90 : 9) | (81 : 9)×(36 : 4) | (72 : 9)×(63 : 9) |
| (63 : 7)×(45 : 9) | (36 : 9)×(72 : 8) | (56 : 7)×(54 : 9) |

**553.**

| | | |
|---|---|---|
| 63 : (92−85) | (96−49+25) : 8 | (18+36) : 6 |
| 72 : (43−34) | (100−63+35) : 9 | (37+17) : 9 |
| 63 : (100−91) | (43+57−46) : 9 | (86−50) : 9 |

**554.** 5 дзён у школу вазілі дровы па 9 вазоў у дзень і 6 дзён па 6 вазоў. На колькі месяцаў загатовіла школа дроў, калі яна спальвае па 9 вазоў у месяц?





**555.** Начарціць на клетчатай паперы 18 клетак, як паказана на рысунку. Падзяліць іх на 9 роўных частак. Колькі клетак у кожнай частцы?

**556.** Для ўпрыгожання школы да Кастрычніцкіх дзён купілі 27 *м* чырвонай тканіны. З гэтай тканіны зрабілі 9 аднолькавых плакатаў. Колькі тканіны пайшло на кожны плакат?

**557.** У мяне 54 руб. Ці хопіць мне гэтых грошай на 9 дзён, калі я буду расходаваць па 6 руб. у дзень?

**558.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| (36 : 9)+ (4×9) | (72 : 9)×6 | (45 : 9)×4 | (81 : 9)× 8 |
| (54 : 9)+ (6×8) | (27 : 9)×7 | (63 : 9)×7 | (54 : 9)×10 |
| (45 : 5)×(56 : 7) | (36 : 4)×9 | (72 : 8)×7 | (64 : 8)×10 |

**559.**

| | | |
|---|---|---|
| $x\times9=36$ | $x\times9=45$ | $x\times9=27$ |
| $x\times8=72$ | $x\times7=56$ | $x\times8=64$ |
| $x\times9=72$ | $x\times9=90$ | $x\times6=54$ |
| $x\times9=81$ | $9\times x=63$ | $x\times7=63$ |
| $x\times7=42$ | $6\times x=42$ | $9\times x=54$ |

**560.** У колькі разоў 54 больш 6? 72 больш 9?

**561.** На колькі 36 больш 9? 45 больш 5?

**562.** Школа набыла 81 кнігу для чытання, з іх 72 кнігі былі без пераплёта, а астатнія ў пераплёце. У колькі разоў менш было кніг у пераплёце, чым кніг без пераплёта?

**563.** Для сталоўкі купілі 54 *кг* чорнага хлеба, а белага ў 9 разоў менш. На колькі кілаграмаў больш купілі чорнага хлеба, чым белага?

**564.**

| | |
|---|---|
| (9×8)−(27 : 3) | (9× 5)+(63 : 9) |
| (9×9)−(56 : 8) | (9×10)−(42 : 7) |
| (7×9)+(63 : 7) | (9× 5)−(54 : 6) |

**565.** Ці аднолькавы атрымаецца адказ, калі 63 паменшым у 9 разоў ці паменшым на 9?

**566.** а) Паменшыць 72 у 9 разоў. б) Паменшыць 72 на 9.

**567.** а) Павялічыць 6 у 9 разоў. б) Павялічыць 6 на 9.

**568.** На 8 сукенак пайшло 48 *м*. Колькі трэба тканіны на 9 такіх сукенак?

569. Хлопчык прабег у 9 сек. 36 *м*; за колькі секунд ён прабяжыць 24 *м*?

570. Рабочы расходуе ў тыдзень на харчаванне 49 руб. На колькі дзён хапіла-б яму на харчаванне 56 руб.?

571. Сталяр зрабіў 56 табурэтак за 7 дзён. За колькі дзён ён можа зрабіць 72 табурэткі?

572. Прыдумаць задачу, у якой патрэбна 56 кап. падзяліць на 8 кап.

573. Прыдумаць задачу, у якой патрэбна 56 кап. падзяліць на 8 роўных частак.

574. На колькі адна восьмая частка ліку 56 больш адной дзевятай часткі ліку 45?

575. На колькі адна дзевятая частка 36 менш адной чацвертай часткі 36?

576. Са школьнага ўчастка сабралі 54 мяшкі бульбы. Дзевятая частка сабранай бульбы была другога сорту, а астатняя бульба першага сорту. На колькі больш сабралі бульбы першага сорту, чым другога? У колькі разоў больш сабралі бульбы першага сорту, чым другога?

577. У адной руцэ 45 кап., у другой 9 кап. Якія пытанні можна паставіць да гэтай задачы?

## 12. Паўтарэнне.

578. За 9 працоўных дзён калгаснік зарабіў 81 руб., яго жонка 72 руб., а сын 54 руб. Колькі рублёў у дзень зарабляла сям'я калгасніка?

579. На адным станку за 7 гадз. зрабілі 56 дэталей, на другім станку за 6 гадз. зрабілі 54 дэталі, на трэцім станку за 9 гадз. — 63 дэталі. Колькі дэталей зрабілі на ўсіх трох станках у 1 гадз.?

580. Дзве гаспадыні купілі за 36 руб. кошык суніц. Адна гаспадыня ўзяла 4 *кг* суніц, а другая астатнія 5 *кг*. Па колькі рублёў павінна заплаціць кожная гаспадыня?

581. Два вучні заплацілі за сшыткі 70 кап. Адзін узяў 3 сшыткі, а другі 4. Па колькі капеек павінен заплаціць кожны з іх?






582. Чаравікі, галошы і парасон каштуюць разам 81 руб. Чаравікі і галошы каштуюць 61 руб., а галошы і парасон каштуюць 36 руб. Колькі каштуюць у паасобку чаравікі, галошы і парасон?

583. У трох мяшках было 100 *кг* цукру. У першым і другім мяшках было 75 *кг* цукру, а ў другім і трэцім 60 *кг* цукру. Колькі кілограмаў цукру было ў кожным мяшку?

584. З аднаго вулля ўзялі 48 *кг* мёду, з другога на 15 *кг* менш. Увесь мёд упакавалі ў 9 слоікаў пароўну. Колькі кілограмаў мёду змяшчалася ў адзін слоік?

585. У гуртку шахматыстаў было 8 чалавек. Яны купілі ў складчыну шахматы. За шахматную дошку яны заплацілі 29 руб., а за фігуры на 14 руб. больш, чым за дошку. Па колькі рублёў заплаціў кожны з іх?

586. Адна гаспадыня купіла 5 *кг* мяса, а другая купіла такога-ж мяса 3 *кг* і заплаціла на 12 руб. менш першай гаспадыні. Колькі каштаваў 1 *кг* мяса?

587. Адзін хлопчык бег 17 сек., а другі з той-жа скорасцю 12 сек. і прабег на 20 *м* менш. Па колькі метраў у секунду яны прабягалі?

588. 9 коням на 2 дні выдана 72 *кг* аўса. Па колькі кілограмаў аўса выдавалі ў дзень кожнаму каню?

589. 8 каровам на працягу 3 дзён выдалі 72 *кг* вотрубяў. Па колькі кілограмаў вотрубяў выдавалі ў дзень кожнай карове?

590. а) Купілі 9 *кг* цукру па 4 руб. і 5 *кг* цукерак па 7 руб. Колькі каштавала гэтая пакупка?

б) Купілі 9 *кг* цукру па 4 руб. і 5 *кг* цукерак. За ўсю пакупку заплацілі 71 руб. Колькі каштаваў кілограм цукерак?

**591.** Хлопчыкі і дзяўчынкі гулялі ў гарэлкі; усяго іх было 15 чалавек. Калі адна дзяўчынка пабегла дадому абедаць, хлопчыкаў і дзяўчынак асталося пароўну. Колькі хлопчыкаў і колькі дзяўчынак гуляла ў гарэлкі?

**592.** На двух клумбах было пасаджана 57 кветак. Калі на першую клумбу пасадзілі яшчэ 3 кветкі, то на абодвух клумбах іх стала пароўну. Колькі кветак было спачатку на кожнай клумбе?

**593.** У двух стайнях было 28 коней. Калі з першай стайні вывелі 8 коней, то ў абодвух стайнях коней стала пароўну. Колькі коней было ў кожнай стайні спачатку?

**594.** На двух талерках было 20 яек. Калі з першай талеркі пераклалі на другую талерку адно яйка, то на абодвух талерках яек стала пароўну. Колькі яек было на кожнай талерцы?

**595.** У Пеці і Лёлі было 18 капеек. Калі Пеця даў Лёлі 2 кап., то ў іх грошай стала пароўну. Колькі грошай было ў Пеці і колькі ў Лёлі?

**596.**

| | | |
|---|---|---|
| $(9\times8)-(7\times5)$ | $(9\times7)+(3\times8)$ | $(9\times6)-(6\times8)$ |
| $(8\times7)-(4\times9)$ | $(5\times7)+(9\times4)$ | $(7\times8)-(9\times3)$ |
| $(6\times9)-(7\times7)$ | $(3\times8)+(4\times7)$ | $(9\times9)-(6\times4)$ |

**597.**

| | |
|---|---|
| $(81:9)\times(42:7)$ | $(3\times10):(36:6)$ |
| $(40:8)\times(72:9)$ | $(6\times4):(72:9)$ |
| $(63:9)\times(42:6)$ | $(3\times8):(30:5)$ |

$(50:10):(45:9)$

$(20\times2):(35:7)$

$(90:3):(40:8)$

**598.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| $(18+45):7$ | $(28+26):6$ | $(19+17):4$ | $(8+37):9$ |
| $(25+47):9$ | $(17+28):5$ | $(48+15):9$ | $(7+65):8$ |
| $(37+27):8$ | $(32+17):7$ | $(19+29):8$ | $(5+37):7$ |



**599.**

| | | |
|---|---|---|
| $(90-54):4$ | $(91-67):8$ | $(65-56)\times9$ |
| $(100-28):9$ | $(63-45):6$ | $(100-92)\times6$ |
| $(100-65):5$ | $(73-45):7$ | $(43-35)\times4$ |

| | |
|---|---|
| $(64-56)\times7$ | $(91-82)\times6$ |
| $(42-35)\times5$ | $(87-79)\times7$ |
| $(100-91)\times8$ | $(73-66)\times9$ |

**600.**

| | | |
|---|---|---|
| $3\times x+2=20;$ | $9\times x-1=17;$ | $x\times6-4=14;$ |
| $4\times x+3=19;$ | $8\times x-1=23;$ | $x\times7-2=12;$ |
| $2\times x+1=15;$ | $5\times x-2=28;$ | $x\times4-3=17.$ |

## 13. Дзяленне з астаткам.

**601.** $60:8=?$ Поўны запіс Кароткі запіс

$$\begin{array}{r} 60:8=7 \\ -\underline{56} \\ 4 \end{array} \qquad \begin{array}{l} 60:8=7 \\ \overline{4} \end{array}$$

**602.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| $7:2$ | $10:3$ | $9:4$ | $29:4$ | $7:5$ |
| $9:2$ | $11:3$ | $13:4$ | $30:4$ | $12:5$ |
| $11:2$ | $14:3$ | $18:4$ | $31:4$ | $18:5$ |
| $15:2$ | $25:3$ | $21:4$ | $35:4$ | $23:5$ |
| $19:2$ | $29:3$ | $26:4$ | $39:4$ | $27:5$ |

**603.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| $31:5$ | $8:6$ | $32:6$ | $9:7$ | $31:7$ |
| $34:5$ | $14:6$ | $41:6$ | $12:7$ | $45:7$ |
| $42:5$ | $19:6$ | $47:6$ | $16:7$ | $54:7$ |
| $46:5$ | $21:6$ | $51:6$ | $24:7$ | $61:7$ |
| $48:5$ | $28:6$ | $57:6$ | $29:7$ | $64:7$ |

**604.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 10 : 8 | 31 : 8 | 53 : 8 | 24 : 9 | 57 : 9 |
| 12 : 8 | 36 : 8 | 61 : 8 | 31 : 9 | 61 : 9 |
| 15 : 8 | 42 : 8 | 75 : 8 | 38 : 9 | 77 : 9 |
| 21 : 8 | 45 : 8 | 78 : 8 | 42 : 9 | 84 : 9 |
| 27 : 8 | 52 : 8 | 13 : 9 | 47 : 9 | 87 : 9 |

**605.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 16 : 3 | 38 : 4 | 46 : 8 | 39 : 7 | 29 : 6 |
| 13 : 2 | 26 : 3 | 28 : 3 | 43 : 5 | 58 : 9 |
| 38 : 4 | 86 : 9 | 50 : 7 | 63 : 8 | 41 : 7 |
| 44 : 6 | 60 : 7 | 10 : 9 | 58 : 6 | 58 : 8 |
| 49 : 5 | 35 : 8 | 39 : 6 | 66 : 9 | 62 : 6 |

# V. Пазатаблічнае множанне.

## 1. Множанне на адназначны лік.

**606.** Марка для загараднага закрытага пісьма каштуе 30 кап. Купілі 3 такія маркі. Колькі капеек атрымаюць рэшты з 1 руб.?

**607.** Вучань купіў 5 сшыткаў па 10 кап. і 2 алоўкі па 20 кап. Ад пакупкі ў яго асталося 10 кап. Колькі грошай было ў вучня да пакупкі?

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **608.** | 10×2+37 | 30×3−83 | 20×4−69 | 10× 8−19 |
| | 20×2−24 | 40×2−52 | 50×2−71 | 10× 7+24 |
| **609.** | 30×2−51 | 10×6−48 | 10×9−53 | 20× 5−37 |
| | 10×5−39 | 60×1+27 | 20×3+19 | 10×10−23 |

**610.** Канверт з гарадской паштовай маркай каштуе 23 кап. Ваня купіў 3 такія канверты. Колькі ён павінен за іх заплаціць?

20×3=60 3×3=9 60+9=69.

**611.** Вучань купіў 4 алоўкі па 12 кап. за аловак. Колькі грошай ён заплаціў?



**612.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 10×2 | 13×2 | 12×3 | 11×5 | 12×5 |
| 14×2 | 32×2 | 33×3 | 11×7 | 14×5 |
| 20×3 | 44×2 | 12×4 | 42×2 | 15×4 |
| 3×3 | 41×2 | 22×4 | 32×3 | 16×5 |
| 23×3 | 43×2 | 11×4 | 23×3 | 15×6 |

**613.** У тыдзень расходуецца 13 *л* карасіну. Колькі карасіну патрэбна на 3 тыдні?

**614.** На 3 клумбы высадзілі па 12 кусцікаў леўкоя і па 13 кусцікаў рэзеды на кожную. Колькі ўсяго кусцікаў пасадзілі на гэтыя клумбы?

**615.** Даярка даглядала 8 кароў; за ранішні ўдой 2 каровы далі па 11 *л* малака, а астатнія па 9 *л*. Колькі малака далі за ўдой усе 8 кароў?

**616.** У адной арцелі было 23 рабочых, а ў другой у 3 разы больш. Колькі рабочых было ў двух арцелях?

**617.** Колькі капеек складаюць 5 манет па 15 кап.?

**618.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 19×2 | 17×3 | 16×4 | 15×5 | 16×6 |
| 26×2 | 25×3 | 23×4 | 17×5 | 13×6 |
| 38×2 | 26×3 | 19×4 | 16×5 | 15×6 |
| 47×2 | 28×3 | 24×4 | 14×5 | 14×6 |

**619.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 13×7 | 29×2 | 24×3 | 19×5 | 12×7 |
| 12×8 | 14×7 | 46×2 | 15×4 | 13×5 |
| 18×2 | 16×3 | 18×4 | 39×2 | 25×4 |
| 14×4 | 12×5 | 13×6 | 18×5 | 29×3 |

**620.** У школьным садзе пасадзілі 15 ліп, таполяў у 3 разы больш, чым ліп, а бярозак на 18 менш, чым таполяў. Колькі ўсяго дрэў пасадзілі ў школьным садзе?

**621.** Фізкультурны гуртох разлічыў, што для пакупкі 4 пар лыж па 17 руб. за пару і 2 пар канькоў па 15 руб. за пару яму нехапае 8 руб. Колькі грошай было ў гуртку?

**622.** 9 *м* паркалю каштуюць 54 руб. Колькі каштуюць 4 *м* шоўкавай тканіны, калі 1 *м* яе каштуе на 19 руб. даражэй 1 *м* паркалю?

**623.**

| | | |
|---|---|---|
| $(16\times5)-(7\times8)$ | $(49\times2)-(9\times7)$ | $36\times2:8$ |
| $(19\times3)-(6\times9)$ | $(12\times6)-(8\times7)$ | $12\times6:9$ |
| $(13\times7)-(5\times9)$ | $(38\times2)-(6\times8)$ | $27\times2:6$ |
| $(24\times3)-(9\times6)$ | $(29\times3)-(7\times7)$ | $18\times4:8$ |
| $(17\times4)-(7\times9)$ | $(14\times5)-(8\times8)$ | $14\times4:7$ |

### 2. Множанне на двухзначны лік.

**624.** У майстэрні пашылі 10 дзіцячых сукенак. На кожную сукенку пайшло па 2 *м* тканіны коштам па 4 руб. за 1 *м*. Колькі каштуе ўся тканіна?

Рашэнне задачы:

1-ы спосаб.

2 *м* $\times10=20$ *м*;

4 руб.$\times20=80$ руб.

2-і спосаб.

4 руб.$\times$ 2= 8 руб.

8 руб.$\times10=80$ руб.

$4\times20=4\times2\times10=80$

$3\times20=?$ $3\times2=6$; $6\times10=60$,

ці $3\times10=30$; $30\times2=60$.

| | | |
|---|---|---|
| 3 | 3 | 6 |
| 3 | 3 | 6 |
| 3 | 3 | 6 |
| 3 | 3 | 6 |
| 3 | 3 | 6 |
| 3 | 3 | 6 |
| 3 | 3 | 6 |
| 3 | 3 | 6 |
| 3 | 3 | 6 |
| 3 | 3 | 6 |

**625.** Растлумачыць, як палічыць, колькі адзінак складаюць 20 троек.

**626.** $2\times40=2\times4\times10=80$ $2\times50=?$

$3\times20=?$ $3\times30=?$

**627.** Для дзіцячага дома купілі 20 *кг* круп па 3 руб. за кілограм і 10 *кг* рысу па 4 руб. за кілограм. Колькі ўсяго зрасходавалі грошай?

**628.** У класе было 40 вучняў; яны пайшлі ў тэатр, прычым 20 вучняў купілі білеты па 2 руб., а астатнія па 3 руб. Колькі каштавалі ўсе білеты?

**629.** Для школы купілі 24 канверты па 2 кап. за канверт. Колькі заплацілі за 20 канвертаў? Колькі звыш таго заплацілі за 4 канверты? Колькі заплацілі за ўсе 24 канверты?



**630.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| $2\times10$ | $2\times13$ | $2\times32$ | $5\times11$ | $4\times25$ |
| $2\times4$ | $2\times15$ | $2\times43$ | $6\times11$ | $5\times16$ |
| $2\times14$ | $3\times12$ | $2\times25$ | $7\times11$ | $6\times15$ |
| $3\times20$ | $3\times13$ | $3\times22$ | $8\times11$ | $2\times42$ |
| $3\times3$ | $4\times12$ | $3\times31$ | $9\times11$ | $3\times32$ |
| $3\times23$ | $5\times11$ | $4\times22$ | $4\times15$ | $4\times21$ |

**631.** Для школьнага буфета купілі 12 *кг* цукру па 4 руб. за кілограм і на 6 руб. чаю. У колькі разоў менш патрацілі грошай на чай, чым на цукар?

**632.** У першым класе вучні сядзяць на 13 партах па 3 чалавекі, а ў другім класе на 22 партах па 2 чалавекі. На колькі вучняў больш у другім класе, чым у першым?

**633.** Пасадзілі 3 мяшкі бульбы, а сабралі ў 15 разоў больш. На колькі мяшкоў больш сабралі бульбы, чым пасадзілі?

---

**634.** Колькі капеек складуць 13 манет па 5 кап.?

**635.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| $6\times12$ | $3\times17$ | $6\times13$ | $2\times27$ | $3\times27$ |
| $2\times18$ | $6\times14$ | $4\times18$ | $4\times23$ | $2\times39$ |
| $4\times16$ | $8\times12$ | $7\times14$ | $3\times24$ | $4\times24$ |
| $7\times13$ | $4\times19$ | $5\times17$ | $2\times49$ | $2\times48$ |
| $5\times19$ | $2\times17$ | $6\times16$ | $2\times36$ | $4\times25$ |

**636.** У дзіцячым садзе 15 дзяцей. Кожны з іх з'еў за снеданнем па 2 слівы і за абедам па 3 слівы. Колькі ўсяго сліў з'елі дзеці? Рашыць двума спосабамі.

**637.** Калі вучань купіць 16 фарбаў па 6 кап., то ў яго астанецца 4 кап. Колькі фарбаў па 10 кап. ён мог-бы купіць на ўсе свае грошы?

**638.** Два атрады піянераў паехалі катацца на лодках. Першы атрад размясціўся на 14 лодках па 4 чалавекі, а другі на 16 лодках па 3 чалавекі. У якім атрадзе піянераў было больш і на колькі?

**639.** У брата было 17 манет па 5 кап., а ў сястры 26 манет па 3 кап. У каго з іх было грошай больш і на колькі?



**640.** Два хлопчыкі адначасова пабеглі навыперадкі з аднаго месца. Адзін з іх прабягаў у 1 сек. 3 *м*, другі 4 *м*. На колькі метраў другі хлопчык выперадзіў першага за 25 сек.?

**641.** Для 12 калгасных парнікоў трэба было зрабіць па 8 рам. У першы дзень майстэрня зрабіла 27 рам, у другі дзень на 15 рам больш, чым у першы дзень. Колькі рам асталося зрабіць?

**642.** Два хлопчыкі выбеглі адначасова насустрач адзін другому. Адзін прабягаў 2 *м* у сек., другі 3 *м*. Праз 16 сек. адлегласць паміж імі была 8 *м*. На якой адлегласці адзін ад другога яны былі спачатку?

**643.** На 96 руб. купілі 14 *кг* цукру па 4 руб. за кілограм і некалькі кілограмаў каўбасы па 8 руб. за кілограм. Колькі кілограмаў каўбасы купілі?

**644.** Калі сабраныя ў садзе ягады пакласці ў 13 кошыкаў па 6 *кг* у кожны, то астанецца 3 *кг* ягад. Колькі патрабуецца кошыкаў для ягад, калі ў кожны кошык пакласці па 9 *кг* ягад?

**645.** У мінулым годзе ў калгаснай сажалцы вылавілі ўсяго толькі 8 *кг* люстранога карпа, а ў цяперашнім годзе ў 12 разоў больш. На колькі кілограмаў больш вылавілі ў цяперашнім годзе?

**646.** Хлопчыку купілі чаравікі, касцюм і шапку. Чаравікі каштавалі 25 руб., касцюм у 4 разы даражэй чаравік, а шапка на 83 руб. дзешавей касцюма. Колькі рублёў каштавала шапка?

**647.** Стол, крэсла і табурэтка каштуюць разам 98 руб. Стол і крэсла разам каштуюць 90 руб., а крэсла і табурэтка 33 руб. Колькі рублёў каштуюць стол, крэсла і табурэтка ў паасобку?

**648.** Для рамонту даху купілі 84 *кг* ліставога жалеза. 16 лістоў важылі па 3 *кг* кожны ліст, астатнія па 4 *кг*. Колькі лістоў жалеза было куплена?



**649.**

| | | |
|---|---|---|
| (4×16)−(9×1) | (2×47)−(9×8) | 6×12 : 9 |
| (7×12)−(8×7) | (4×19)−(8×6) | 2×36 : 8 |
| (3×19)+(7×6) | (6×14)−(9×3) | 4×18 : 6 |
| (6×16)−(9×7) | (3×28)−(7×8) | 2×28 : 7 |

**650.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 3×18+19 | 8×12−38 | 3×12 : 6 | 12× 6 : 8 |
| 5×16−17 | 3×27−27 | 3×18 : 6 | 6×12 : 9 |
| 4×19−28 | 5×19−46 | 2×15 : 5 | 3×14 : 6 |
| 7×13−73 | 4×17−39 | 12× 3 : 9 | 14× 3 : 7 |

**651.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 4×18−33 | 7×13−63 | 4×24−17 | 5×19−37 |
| 3×28−24 | 5×16−38 | 3×19−49 | 6×14−56 |
| 5×17−52 | 8×11−43 | 6×15−61 | 8×10−72 |
| 9×11−71 | 6×16−28 | 9×10−11 | 7×11−18 |



# VI. Пазатаблічнае дзяленне.

## 1. Дзяленне на адназначны лік.

**652.** Кніга ў пераплёце каштуе 80 кап. Кошт пераплёту складае чацвертую частку гэтай цаны. Колькі каштуе кніга без пераплёту?

**653.**

| | | |
|---|---|---|
| 30 : 3+17 | 80 : (32−28) | (60−20) : 4 |
| 80 : 4+34 | 60 : (62−56) | (96−16) : 2 |
| 60 : 2+69 | 90 : (81−78) | (27+33) : 3 |

**654.** а) З 30 *м* тканіны пашылі кашулі. На кожную кашулю пайшло па 3 *м*. Колькі пашылі кашуль?

б) Кавалак тканіны ў 30 *м* разрэзалі на 3 роўныя часткі. Колькі метраў у трэцяй частцы кавалка?

**655.** За 5 *м* сатыну заплацілі 25 руб., а за 2 *м* сукна 100 руб. У колькі разоў 1 *м* сукна даражэй 1 *м* сатыну?

**656.** За 4 мін. насос накачвае 40 вёдзер вады. За 6 мін. гэты насос напаўняе пустую бочку. Колькі вёдзер умяшчае бочка?

**657.** З першага парніка знялі 96 агуркоў, з другога ў 3 разы менш, чым з першага, а з трэцяга ў 4 разы менш, чым з другога. Колькі агуркоў знялі з трэцяга парніка?

**658.** За 3 дні работы 2 рабочых атрымалі 96 руб. Колькі рублёў у дзень атрымліваў кожны з іх? Рашыць двума спосабамі.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **659.** | 60 : 3 = 20 | 28 : 2 | 39 : 3 | 48 : 4 | 33 : 3 |
| | 9 : 3 = 3 | 46 : 2 | 96 : 3 | 88 : 4 | 93 : 3 |
| | 69 : 3 = 23 | 64 : 2 | 81 : 3 | 55 : 5 | 100 : 2 |
| | 40 : 4 | 82 : 2 | 99 : 3 | 77 : 7 | 100 : 5 |
| **660.** | 60 : 2 = 30 | 80 : 2 | 70 : 5 | 40 : 2 = 20 | 94 : 2 |
| | 10 : 2 = 5 | 90 : 2 | 80 : 5 | 12 : 2 = 6 | 54 : 2 |
| | 70 : 2 = 35 | 60 : 4 | 90 : 5 | 52 : 2 = 26 | 58 : 2 |
| | 50 : 2 | 100 : 4 | 90 : 6 | 32 : 2 | 76 : 2 |
| **661.** | 92 : 2 | 72 : 4 | 75 : 5 | 48 : 3 | 96 : 8 |
| | 96 : 2 | 76 : 4 | 85 : 5 | 72 : 3 | 64 : 4 |
| | 68 : 4 | 96 : 4 | 42 : 3 | 72 : 6 | 98 : 7 |
| | 56 : 4 | 65 : 5 | 45 : 3 | 84 : 7 | 68 : 4 |

**662.** У хлопчыка было 4 манеты па 15 кап. і адна манета ў 20 кап. На свае грошы ён купіў 5 алоўкаў. Колькі каштаваў кожны аловак?

**663.** Вучняў другога класа было 84. У выходны дзень адна шостая частка вучняў пайшла ў Дом піонера, адна трэцяя частка — у тэатр, а астатнія пайшлі ў кіно. Колькі вучняў пайшло ў кіно?

**664.** На калгасным полі працавала 96 чалавек. Палову з іх складалі жанчыны, адну трэцюю частку — мужчыны. Астатнія былі падлеткі. Колькі падлеткаў працавала ў полі?



**665.** Для дзіцячага сада купілі 3 *кг* сыру і 2 *кг* масла. За ўсю пакупку заплацілі 72 руб. Колькі каштаваў 1 *кг* масла, калі 1 *кг* сыру каштаваў 14 руб.?

**666.** У майстэрні было 2 адрэзы тканіны даўжынёй у 35 *м* і ў 29 *м*. З гэтай тканіны пашылі халаты. На кожны халат пайшло па 4 *м*. Колькі пашылі халатаў?

**667.** Для пасеву загатовілі 47 мяшкоў пшаніцы і 49 мяшкоў жыта. Усё гэтае зерне павезлі на падводах па 8 мяшкоў на кожнай. На колькіх падводах павезлі зерне?

**668.** Савецкая работніца працуе на фабрыцы 8 гадзін у дзень, а японская 84 гадзіны за 6 рабочых дзён. На колькі гадзін у дзень савецкая работніца працуе менш японскай?

**669.** На двух грузавіках ляжала 38 мяшкоў мукі. Калі з аднаго грузавіка знялі 2 мяшкі, на абодвух грузавіках мяшкоў аказалася пароўну. Колькі мяшкоў мукі было спачатку на кожным грузавіку?

**670.** Шкляр за 3 дні зарабіў 87 руб. На харчаванне за гэты час ён патраціў 48 руб. На колькі рублёў штодзённы заработак шкляра больш яго расходаў на харчаванне?

**671.** а) Я задумаў лік, павялічыў яго на 5 і атрымаў 23. Які лік я задумаў?

б) Я задумаў лік, павялічыў яго ў пяць разоў і атрымаў 60. Які лік я задумаў?

**672.** У колькі разоў 4 менш 76? 6 менш 90?

**673.** Дзве гаспадыні купілі на рынку 7 *кг* сала за 84 руб. Адна з іх узяла 3 *кг*, другая астатняе сала. Колькі рублёў заплаціла кожная гаспадыня?

**674.** Маці купіла тканіны на 96 руб. З гэтай тканіны пашылі дзве сукенкі: на адну сукенку пайшло 5 *м* тканіны, на другую 3 *м*. На колькі рублёў пайшло тканіны на кожную сукенку?

**675.** У 2 скрынках было 85 *кг* круп. Калі з першай скрынкі прадалі 12 *кг* круп, а з другой 15 *кг*, у абодвух скрынках круп асталося пароўну. Колькі круп было ў кожнай скрынцы спачатку?

## 2. Дзяленне на двухзначны лік.

**676.** 80 піянераў пастроіліся ў 10 радоў. Колькі чалавек было ў кожным радзе?

**677.** На скотным двары было 30 цялят. Калгас загатовіў для іх на зіму 60 вазоў сена. Па колькі вазоў сена загатоўлена на кожнае цяля?

**678.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 20 : 10 | 30 : 10 | 50 : 10 | 100 : 10 | 80 : 10 |
| 40 : 10 | 10 : 10 | 70 : 10 | 90 : 10 | 60 : 10 |
| 40 : 20 | 80 : 40 | 60 : 30 | 60 : 20 | 80 : 80 |
| 80 : 20 | 100 : 20 | 100 : 50 | 40 : 40 | 90 : 30 |

**679.** У Пеці 69 кап. Ён хоча на гэтыя грошы купіць каляровых алоўкаў па 23 кап. за аловак. Ці хопіць яму грошай, каб купіць 4 алоўкі? Ці можа ён купіць 3 алоўкі?

Лічы вусна: а) 23 кап.×1=23 кап.
б) 23 кап.×2=46 кап.
в) 23 кап.×3=69 кап.
г) 23 кап.×4=92 кап.

Запішы: 69 кап. : 23 кап.=3; 3 алоўкі.

**680.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 11× 5 | 13× 3 | 34 : 17 | 76 : 19 | 87 : 29 |
| 55 : 11 | 39 : 13 | 51 : 17 | 95 : 19 | 62 : 31 |
| 77 : 11 | 52 : 13 | 68 : 17 | 46 : 23 | 93 : 31 |
| 99 : 11 | 65 : 13 | 85 : 17 | 69 : 23 | 74 : 37 |
| 44 : 11 | 78 : 13 | 38 : 19 | 92 : 23 | 82 : 41 |
| 66 : 11 | 91 : 13 | 57 : 19 | 58 : 29 | 94 : 47 |

**681.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 33 : 11 | 94 : 47 | 95 : 19 | 92 : 46 | 78 : 13 |
| 52 : 13 | 82 : 41 | 85 : 17 | 57 : 19 | 46 : 23 |
| 68 : 17 | 74 : 37 | 91 : 13 | 51 : 17 | 38 : 19 |
| 76 : 19 | 93 : 31 | 44 : 11 | 65 : 13 | 34 : 17 |
| 92 : 23 | 58 : 29 | 98 : 49 | 99 : 11 | 39 : 13 |
| 86 : 43 | 69 : 23 | 62 : 31 | 39 : 13 | 95 : 19 |



**682.** За 5 кошыкаў клубніц, па 3 *кг* у кожным, заплацілі 90 руб. Колькі рублёў каштаваў 1 *кг* клубніц?

Рашэнне задачы.

| 1-ы спосаб. | 2-і спосаб. |
|---|---|
| 1) 3 *кг* × 5=15 *кг*; | 1) 90 руб. : 5=18 руб. |
| 2) 90 руб. : 15=6 руб. | 2) 18 руб. : 3= 6 руб. |
| *Адказ:* 6 руб. | *Адказ:* 6 руб. |

Растлумачыць абодва спосабы рашэння гэтай задачы.

**683.** 56 : 14=56 : 2 : 7=4.




**684.**

| | | |
|---|---|---|
| 70 : 14=70 : 2 : 7 | 60 : 15=60 : ? | 81 : 27 |
| 70 : 14=70 : 7 : 2 | 54 : 18=54 : ? | 75 : 25 |
| 75 : 15=75 : 3 : ? | 72 : 18=72 : ? | 54 : 27 |
| 84 : 21=84 : 7 : ? | 45 : 15=45 : ? | 96 : 24 |

**685.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 24 : 12 | 39 : 13 | 96 : 32 | 28 : 14 | 88 : 11 |
| 36 : 12 | 64 : 32 | 86 : 43 | 69 : 23 | 82 : 41 |
| 48 : 24 | 96 : 16 | 63 : 21 | 46 : 23 | 66 : 33 |
| 56 : 14 | 96 : 24 | 68 : 34 | 96 : 32 | 66 : 22 |

**686.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 30 : 15 | 32 : 16 | 54 : 18 | 51 : 17 | 81 : 27 |
| 70 : 35 | 72 : 36 | 34 : 17 | 72 : 24 | 78 : 26 |

**687.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 50 : 25 | 38 : 19 | 96 : 24 | 76 : 38 | 92 : 46 |
| 90 : 45 | 48 : 16 | 57 : 19 | 60 : 15 | 98 : 49 |

**688.** Колькі разоў трэба ўзяць па 15, каб атрымаць 30? Колькі разоў 15 змяшчаецца ў 30?

## 2. Дзяленне на двухзначны лік.

**676.** 80 піянераў пастроіліся ў 10 радоў. Колькі чалавек было ў кожным радзе?

**677.** На скотным дварэ было 30 цялят. Калгас загатовіў для іх на зіму 60 вазоў сена. Па колькі вазоў сена загатоўлена на кожнае цяля?

**678.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 20 : 10 | 30 : 10 | 50 : 10 | 100 : 10 | 80 : 10 |
| 40 : 10 | 10 : 10 | 70 : 10 | 90 : 10 | 60 : 10 |
| 40 : 20 | 80 : 40 | 60 : 30 | 60 : 20 | 80 : 80 |
| 80 : 20 | 100 : 20 | 100 : 50 | 40 : 40 | 90 : 30 |

**679.** У Пеці 69 кап. Ён хоча на гэтыя грошы купіць каляровых алоўкаў па 23 кап. за аловак. Ці хопіць яму грошай, каб купіць 4 алоўкі? Ці можа ён купіць 3 алоўкі?

Лічы вусна: а) 23 кап.×1=23 кап.
б) 23 кап.×2=46 кап.
в) 23 кап.×3=69 кап.
г) 23 кап.×4=92 кап.

Запішы: 69 кап. : 23 кап.=3; 3 алоўкі.

**680.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 11× 5 | 13× 3 | 34 : 17 | 76 : 19 | 87 : 29 |
| 55 : 11 | 39 : 13 | 51 : 17 | 95 : 19 | 62 : 31 |
| 77 : 11 | 52 : 13 | 68 : 17 | 46 : 23 | 93 : 31 |
| 99 : 11 | 65 : 13 | 85 : 17 | 69 : 23 | 74 : 37 |
| 44 : 11 | 78 : 13 | 38 : 19 | 92 : 23 | 82 : 41 |
| 66 : 11 | 91 : 13 | 57 : 19 | 58 : 29 | 94 : 47 |

**681.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 33 : 11 | 94 : 47 | 95 : 19 | 92 : 46 | 78 : 13 |
| 52 : 13 | 82 : 41 | 85 : 17 | 57 : 19 | 46 : 23 |
| 68 : 17 | 74 : 37 | 91 : 13 | 51 : 17 | 38 : 19 |
| 76 : 19 | 93 : 31 | 44 : 11 | 65 : 13 | 34 : 17 |
| 92 : 23 | 58 : 29 | 98 : 49 | 99 : 11 | 39 : 13 |
| 86 : 43 | 69 : 23 | 62 : 31 | 39 : 13 | 95 : 19 |



**682.** За 5 кошыкаў клубніц, па 3 *кг* у кожным, заплацілі 90 руб. Колькі рублёў каштаваў 1 *кг* клубніц?

Рашэнне задачы.

| 1-ы спосаб. | 2-і спосаб. |
|---|---|
| 1) 3 *кг* × 5=15 *кг*; | 1) 90 руб. : 5=18 руб. |
| 2) 90 руб. : 15=6 руб. | 2) 18 руб. : 3= 6 руб. |
| *Адказ:* 6 руб. | *Адказ:* 6 руб. |

Растлумачыць абодва спосабы рашэння гэтай задачы.

**683.** 56 : 14=56 : 2 : 7=4.




**684.**

| | | |
|---|---|---|
| 70 : 14=70 : 2 : 7 | 60 : 15=60 : ? | 81 : 27 |
| 70 : 14=70 : 7 : 2 | 54 : 18=54 : ? | 75 : 25 |
| 75 : 15=75 : 3 : ? | 72 : 18=72 : ? | 54 : 27 |
| 84 : 21=84 : 7 : ? | 45 : 15=45 : ? | 96 : 24 |

**685.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 24 : 12 | 39 : 13 | 96 : 32 | 28 : 14 | 88 : 11 |
| 36 : 12 | 64 : 32 | 86 : 43 | 69 : 23 | 82 : 41 |
| 48 : 24 | 96 : 16 | 63 : 21 | 46 : 23 | 66 : 33 |
| 56 : 14 | 96 : 24 | 68 : 34 | 96 : 32 | 66 : 22 |

**686.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 30 : 15 | 32 : 16 | 54 : 18 | 51 : 17 | 81 : 27 |
| 70 : 35 | 72 : 36 | 34 : 17 | 72 : 24 | 78 : 26 |

**687.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 50 : 25 | 38 : 19 | 96 : 24 | 76 : 38 | 92 : 46 |
| 90 : 45 | 48 : 16 | 57 : 19 | 60 : 15 | 98 : 49 |

**688.** Колькі разоў трэба ўзяць па 15, каб атрымаць 30? Колькі разоў 15 змяшчаецца ў 30?

**689.** Садоўнік сабраў 60 *кг* маліны і расклаў яе ў кошыкі па 12 *кг* у кожны. У колькі кошыкаў ён расклаў усю сабраную маліну?

**690.** У стагу 72 *ц* сена. На колькі кароў хопіць гэтага сена, калі кожнай карове трэба па 24 *ц*?

**691.** За 14 *кг* рыбы заплацілі 28 руб. Колькі каштаваў 1 *кг* рыбы?

**692.** Бацьку 36 год, а сын у 12 разоў маладзей бацькі. Колькі год сыну?

**693.** 15 лістоў дахавага жалеза важаць 60 *кг*. Колькі кілаграмаў важыць адзін ліст дахавага жалеза? Колькі важаць 23 такія лісты?

**694.** За 14 *кг* макаронаў заплацілі 56 руб. Колькі каштуюць 18 *кг* макаронаў?

**695.** Выраб 16 табурэтак абышоўся майстэрні ў 50 руб. У колькі рублёў абышлася работа кожнай табурэткі, калі на матэрыял для табурэтак пайшло 18 руб.?

**696.** На 96 руб. купілі 3 *м* тканіны па 14 руб. за 1 *м* і некалькі метраў па 18 руб. за 1 *м*. Колькі метраў тканіны купілі па 18 руб. за 1 *м*?

**697.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 60 : 12 | 96 : 24 | 90 : 18 | 91 : 13 | 70 : 14 |
| 75 : 15 | 72 : 12 | 96 : 12 | 95 : 19 | 76 : 19 |
| 56 : 14 | 80 : 16 | 65 : 13 | 52 : 13 | 90 : 15 |
| 78 : 13 | 98 : 14 | 72 : 18 | 64 : 16 | 84 : 14 |

**698.** (60 : 12)×(50 : 25)  (90 : 45)× (90 : 15)
(70 : 35)×(70 : 14)  (100 : 50)×(100 : 25)

**699.** На падводу паклалі 12 мяшкоў арэхаў, а на грузавік на 84 мяшкі больш. У колькі разоў больш паклалі на грузавік?

**700.** У садзе 96 пладовых дрэў: з іх яблынь — 56, ігруш у 14 разоў менш, чым яблынь, астатнія дрэвы — вішня. Колькі вішань у садзе?

**701.** (24×4)−(60 : 12)  (25×4)−(100 : 25)
(47×2)−(90 : 15)  (50×2)− (72 : 36)

**702.** (90 : 18)×17  (36 : 18)×39  (45 : 15)×25
(70 : 14)×20  (92 : 23)×24  (81 : 27)×33



**703.** У колькі разоў 75 больш 15? На колькі 75 больш 15?

**704.** У колькі разоў 28 менш 84? На колькі 28 менш 84?

**705.** Для пашывачнай майстэрні купілі некалькі электрычных уцюгоў па 32 руб. і 3 звычайныя ўцюгі па 8 руб. За ўсю пакупку заплацілі 88 руб. Колькі ўсяго ўцюгоў купілі для майстэрні?

**706.** Для дзіцячага сада купілі 4 *кг* яблык па 12 руб за кілограм і 3 *кг* ігруш. За ўсю пакупку заплацілі 96 руб. Колькі каштаваў 1 *кг* ігруш?

**707.** (72 : 36)×42  24×(48 : 16)  (90 : 15)×12
(77 : 11)×12  12×(72 : 24)  (78 : 13)×14
13×(84 : 12)  (91 : 13)×12  (65 : 13)×14
19×(48 : 12)  (52 : 13)×15  (56 : 14)×23
16×(60 : 12)  (91 : 13)×13
24×(56 : 14)  14×(84 : 12)
(81 : 27)×32  18×(96 : 16)

**708.** Калгас павінен быў перавезці з сенажаці 96 вазоў сена. Першыя 3 дні калгас перавозіў па 18 вазоў у дзень, а ў наступныя дні па 21 возу ў дзень. За колькі дзён калгас перавёз усё сена?

**709.** У адным сяле да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі на касавіцу трацілі 26 дзён, на жніво 16 дзён. Зараз гэтыя работы на тым-жа ўчастку зямлі калгас выконвае за 14 дзён. У колькі разоў хутчэй калгас выконвае гэтыя работы?

**710.** Вучань прачытаў 96 старонак кнігі ў 4 дні, чытаючы кожны дзень па 3 гадзіны. Па колькі старонак ён прачытваў у сярэднім за кожную гадзіну? Рашыць задачу двума спосабамі.

**711.** На 5 падводах перавезлі 35 мяшкоў бульбы. Колькі такіх падвод патрэбна будзе, каб перавезці 84 мяшкі бульбы?

**712.** Для легкавой машыны зрасходавалі ў 6 дзён 96 *л* бензіну. На колькі дзён хопіць 64 *л* бензіну, калі штодзённы расход бензіну для машыны будзе такі-ж?

**713.** З 50 *кг* малака атрымалі 3 *кг* масла. Колькі масла атрымаецца з 100 *кг* малака?

**714.** У 15 сек. хлопчык прабег 50 *м*. Якую адлегласць ён прабяжыць з такой-жа скорасцю ў 30 сек.?




**715.** З 25 *кг* ільнянага семя атрымалі 4 *кг* масла. Колькі трэба ўзяць ільнянага семя, каб атрымаць 8 *кг* масла? 12 *кг*? 16 *кг* масла?

**716.** За 50 мін. насос накачаў 24 вядры вады. За колькі мінут гэтым насосам можна накачаць 48 вёдзер вады? 12 вёдзер?

**717.** У магазіне асталося два кавалкі паркалю. Адзін з іх даўжынёй у 11 *м*, другі ў 12 *м*. Колькі каштуе кожны з гэтых кавалкаў паркалю асобна, калі абодва кавалкі каштуюць 92 руб.?

**718.** Вучань прачытаў кнігу ў 60 старонак за 5 гадз. У першы дзень ён прачытаў 24 старонкі, а ў другі дзень астатнюю частку кнігі. Колькі гадзін ён чытаў у першы дзень і колькі ў другі?

### 3. Дзяленне з астаткам.

**719.** У майстэрні ёсць 3 кавалкі тканіны: у 20 *м*, 17 *м* і 19 *м*. На кашулю ідзе 3 *м* тканіны. Які патрэбна ўзяць кавалак для шыцця кашуль, каб атрымаўся меншы астатак тканіны?

**720.** З I класа ў кіно прышло 37 вучняў, а з II класа 22 вучні. Іх рассадзілі на лаўкі па 12 чалавек на кожную, а астатніх пасадзілі на крэслы. Колькі вучняў пасадзілі на крэслы?

**721.** У дзіцячым доме трэба пасадзіць абедаць 60 дзяцей. За кожны стол можна пасадзіць па 14 чалавек. Колькі сталоў поўнасцю займуць дзеці? Колькі дзяцей прыдзецца пасадзіць асобна?



| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **722.** | 40 : 15 | 80 : 32 | 92 : 45 | 89 : 41 | 100 : 49 |
| | 70 : 26 | 79 : 37 | 96 : 46 | 93 : 44 | 99 : 34 |
| | 67 : 24 | 89 : 39 | 96 : 43 | 89 : 35 | 100 : 47 |
| | 60 : 25 | 100 : 34 | 90 : 42 | 80 : 33 | 72 : 45 |
| | 80 : 28 | 92 : 35 | 100 : 40 | 60 : 31 | 95 : 42 |
| **723.** | 39 : 12 | 90 : 27 | 90 : 21 | 72 : 11 | 93 : 13 |
| | 76 : 25 | 100 : 31 | 60 : 11 | 80 : 12 | 90 : 11 |
| | 40 : 13 | 51 : 12 | 72 : 13 | 91 : 14 | 98 : 12 |
| | 50 : 14 | 63 : 15 | 79 : 14 | 100 : 15 | 100 : 11 |
| | 60 : 18 | 82 : 19 | 91 : 16 | 87 : 12 | 95 : 15 |
| **724.** | 33 : 12 | 81 : 11 | 99 : 39 | 87 : 25 | 66 : 19 |
| | 49 : 27 | 34 : 13 | 84 : 24 | 59 : 17 | 84 : 26 |
| | 62 : 14 | 51 : 12 | 37 : 16 | 73 : 23 | 91 : 37 |
| | 80 : 23 | 65 : 16 | 54 : 13 | 41 : 15 | 78 : 17 |
| | 93 : 36 | 100 : 47 | 71 : 15 | 57 : 13 | 43 : 19 |

## VII. Усе чатыры дзеянні.

**725.** У магазіне прадаюцца кляновыя лыжы па 17 руб. за пару і бярозавыя па 13 руб. за пару. На колькі рублёў даражэй будуць каштаваць 5 пар кляновых лыж, чым такая-ж колькасць бярозавых?

Рашыць задачу двума спосабамі.

**726.** $(65-58)\times 7$ $(85-79)\times 9$ $(91-83)\times 9$

$(86-77)\times 4$ $(53-44)\times 8$ $(63-58)\times 7$

$(74-66)\times 7$ $(72-66)\times 6$ $(75-68)\times 8$

$(71-59)\times 6$ $(71-58)\times 7$

$(52-35)\times 4$ $(83-54)\times 3$

$(73-61)\times 8$ $(56-39)\times 5$

727. (53−39)×7 (52−28)×4 (38−19)×3
(71−58)×6 (65−26)×2 (61−38)×3
(42−28)×6 (64−39)×3 (34−18)×5
(68−39)×3 (75−39)×3
(34−23)×9 (93−77)×6
(42−28)×7 (65−48)×4

728. У трох бідонах было 100 *л* карасіну. У першым і ў другім было 72 *л*, а ў першым і трэцім — 62 *л*. Колькі літраў карасіну было ў кожным бідоне?

729. У садзе расло 65 пладовых дрэў — яблынь і сліў. Пасадзілі яшчэ 35 яблынь. Пасля гэтага яблынь стала столькі-ж, колькі і сліў. Колькі сліў расло ў садзе?

730. (72−37) : 5 (62−34) : 4 (93−37) : 8
(75−26) : 7 (81−39) : 6 (83−48) : 7
(94−58) : 9 (56−29) : 3 (90−45) : 9
(100−37) : 7 (100−22) : 6
(93−29) : 8 (95−17) : 6
(81−36) : 5 (92−24) : 4

731. (28+35) : 3 (25+35) : 4 (81−27) : 3
(19+29) : 4 (67+24) : 7 (39+39) : 6
(37+59) : 6 (27+68) : 5 (58+26) : 7
(27+65) : 4 (35+43) : 3
(39+45) : 6 (29+43) : 4

732. У школьным кіёску 100 сшыткаў: адна чацвертая частка сшыткаў у клетку, адна пятая ў адну лінейку, а астатнія ў 3 лінейкі. Колькі сшыткаў у 3 лінейкі?

733. З кавалка тканіны пашылі 12 мужчынскіх кашуль і 14 дзіцячых. На кожную мужчынскую кашулю пайшло 3 *м* тканіны, а на кожную дзіцячую 2 *м*. Асталося ад кавалка 7 *м*. Колькі метраў тканіны было ў кавалку?



734. У стадзе 96 галоў жывёлы: адна восьмая частка — цяляты, кароў у 3 разы больш, астатнія — авечкі. Колькі ў стадзе авечак?

735. (49+35) : 14 (100−32) : 17
(93−88)×13 (92−87)×18
(47+49) : 16 (47+53) : 20
(100−96)×17 (71−67)×19
(49+51) : 25 (35+37) : 36

736. (4×4)+(5×4) (9×9)−(8×8) (8×5)−(3×8)
(7×7)+(6×7) (8×6)−(7×5) (7×9)+(8×4)
(9×3)+(6×4) (7×8)−(5×9) (8×8)−(9×6)

737. За 12 дзён сталоўка зрасходавала 84 *кг* круп. На колькі кілаграмаў круп больш павінна загатовіць сталоўка на 14 дзён?

738. (7×8) : 14 (6×6) : 12 (8×9) : 24 (6×6) : 12
(8×8) : 16 (5×8) : 10 (9×7) : 21 (6×8) : 24
(4×6) : 12 (3×8) : 12 (5×9) : 15 (4×9) : 18

739. (75 : 25)×13 (51 : 17)×23 (80 : 16)×16
(65 : 13)×11 (72 : 18)×21 (68 : 17)×18
(78 : 13)×12 (90 : 18)×15 (57 : 19)×17
(96 : 16)×12 (72 : 12)×14
(84 : 12)×13 (96 : 12)×11
(75 : 25)×19 (81 : 27)×19

740. (57 : 3)×(72 : 24) (42 : 14)×(92 : 23)
(39 : 3)×(96 : 24) (90 : 15)×(51 : 17)
(56 : 4)×(87 : 29) (78 : 13)×(84 : 7)
(92 : 4)×(72 : 18) (95 : 5)×(56 : 14)

741. У садзе патрэбна пасадзіць 84 яблыні. Першыя 2 гадзіны садзілі па 12 яблынь у гадзіну. Па колькі штук у гадзіну трэба садзіць астатнія яблыні, каб пасадзіць іх за 4 гадзіны?

742. (90 : 15)×(60 : 15)×(90 : 30) 27 : 4 98 : 7 62 : 13
(75 : 25)×(100 : 25)×(92 : 23) 56 : 9 87 : 12 78 : 16

743. Мама хоча купіць яблык. У магазіне ёсць яблыкі па 9 руб. і па 11 руб. за кілограм. На пакупку 2 *кг* па 11 руб. у мамы нехапае 2 руб. Колькі яна можа купіць яблык па 9 руб. за кілограм? Колькі ў яе астанецца грошай?

744. Чаравікі каштуюць 54 руб., а галошы ў 3 разы дзешавей. Колькі каштуюць галошы з чаравікамі разам?

745. На 3 грузавіках ляжала 85 мяшкоў аўса. Калі з аднаго грузавіка знялі 4 мяшкі, то на ўсіх грузавіках аўса асталося пароўну. Па колькі мяшкоў аўса было на кожным грузавіку спачатку?

746. На 3 участках расло 92 дрэвы. Калі на першым участку спілавалі 8 дрэў, а на другім — 21 дрэва, то на ўсіх участках дрэў стала пароўну. Па колькі дрэў расло на кожным участку?

747. На 2 вазах было 48 скрынак з таварам. Калі з першага воза пераклалі на другі 3 скрынкі, то на абодвух вазах іх стала пароўну. Колькі скрынак было на кожным возе да перакладвання?

748. Сыну 8 год, маці старэй сына ў 4 разы. Колькі год было маці, калі нарадзіўся сын?

749. Брат з сястрой купілі фарбы за 8 руб. Для гэтай пакупкі брат аддаў палову сваіх грошай, а сястра адну трэць, але абодва яны далі пароўну. Колькі грошай было ў брата? у сястры?

750. У двух кавалках было 15 *м* сукна. У адным з іх на 3 *м* больш, чым у другім. Колькі метраў сукна было ў кожным кавалку?




751. Яблык і ігруша разам каштуюць 95 кап. Ігруша каштуе на 35 кап. даражэй яблыка. Колькі каштуюць яблык і ігруша ў паасобку?

752. У двух скрынках было 75 *кг* памідораў. У адной скрынцы было на 13 *кг* больш, чым у другой. Колькі кілограмаў памідораў было ў кожнай скрынцы?



753. Два возчыкі прывезлі ў магазін скрынкі з таварам. Адзін прывёз 9 скрынак, а другі 6 такіх-жа скрынак. Абодвум возчыкам заплацілі 60 руб., прычым кожны павінен атрымаць па колькасці прывезеных скрынак. Як яны павінны падзяліць атрыманыя грошы?

754. У Вані калекцыя ў 42 маркі, а ў Пеці ў 52 маркі. Колькі марак павінен даць Пеця Ваню, каб марак у іх стала пароўну?

755. У Мані 49 малюнкаў, а ў Сені 38 малюнкаў. Маня дала Сеню 13 малюнкаў. У каго цяпер больш малюнкаў і на колькі?

756. Школа зрасходавала 14 руб. на пакупку дапаможнікаў, а на пакупку кніг у 5 разоў больш, і на пакупку сшыткаў асталося грошай на 68 руб. менш, чым зрасходавалі. Колькі грошай адпусцілі школе на пакупкі?

757. З атрыманых грошай я расходаваў першыя 4 дні тыдня па 14 руб. у дзень, пасля гэтага ў мяне асталося на 8 руб. менш, чым я зрасходаваў. Па колькі рублёў я магу цяпер расходаваць, каб усе грошы зрасходаваць да канца тыдня?

758. З 10 *кг* пшанічнай мукі выпякаюць 13 *кг* хлеба. Колькі хлеба выпякуць з 40 *кг* мукі?

759. З 10 *кг* пшанічнай мукі выпякаюць 13 *кг* хлеба. Колькі трэба ўзяць мукі, каб атрымаць 65 *кг* хлеба?

760. 6 гузікаў каштуюць 25 кап. Колькі такіх гузікаў можна купіць на 1 руб.?

761. На трох грузавіках прывезлі ў поле па 28 мяшкоў зерня на кожным, а на 7 падводах па 6 мяшкоў на кожнай. У колькі разоў больш прывезлі зерня на грузавіках, чым на падводах?

762. Даярка атрымала за дзень ад сваіх кароў 99 *л* малака. 3 каровы ёй далі па 13 *л* малака. Астатнія па 12 *л*. Колькі кароў даглядала даярка?

763. Павялічыць 24 у 3 разы. Павялічыць 24 на 3 адзінкі. Які лік больш 14 у 5 разоў? Які больш 14 на 5 адзінак?

**764.** 2 вучні купілі 5 каляровых алоўкаў за 90 кап. Адзін з іх на гэту пакупку даў 36 кап., другі астатнюю суму. Колькі алоўкаў павінен атрымаць кожны з іх?

**765.** Дзве брыгады пільшчыкаў па 4 чалавекі ў кожнай за два дні работы атрымалі 96 руб. Колькі рублёў атрымаў кожны з іх у дзень? Рашыць задачу двума спосабамі.

**766.** Паменшыць 92 у 4 разы. Паменшыць 92 на 4 адзінкі. У колькі разоў 72 больш 36? У колькі разоў 16 менш 48?

**767.** Я задумаў лік, павялічыў яго ў 3 разы і атрымаў 45. Які лік я задумаў?

**768.** Я задумаў лік, паменшыў яго ў 5 разоў і атрымаў 12. Які лік я задумаў?

**769.** Ваня і Пеця рашалі такую задачу: Два рабочыя распілоўвалі бервяно даўжынёй у 8 *м* на слупы даўжынёй па 2 *м* кожны. Колькі часу яны патрацілі на распілоўку ўсяго бервяна, калі на адпілоўванне кожнага слупа ў іх ішло па 3 мін.?



У Вані атрымаўся адказ: 12 мін., а ў Пеці — 9 мін. Хто з іх правільна рашыў задачу?

**770.** Школа рашыла зрабіць перад школьным участкам плот даўжынёй у 100 *м*. Колькі патрэбна будзе паставіць слупоў для плота, калі слупы будуць пастаўлены праз кожныя 4 *м*?



# VIII. Задачы на вылічэнне часу.

**771.** У годзе 12 месяцаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Студзень мае | 31 дзень. | Ліпень | —31 дзень. |
| Люты | —28—29 дзён. | Жнівень | —31 дзень. |
| Сакавік | —31 дзень. | Верасень | —30 дзён. |
| Красавік | —30 дзён. | Кастрычнік | —31 дзень. |
| Май | —31 дзень. | Лістапад | —30 дзён. |
| Чэрвень | —30 дзён. | Снежань | —31 дзень. |

Колькі месяцаў у годзе маюць па 31 дню?

Колькі месяцаў у годзе маюць па 30 дзён?

**772.** У сутках—24 гадзіны.

1 гадзіна мае 60 мінут.

1 мінута мае 60 секунд.

Колькі мінут прадаўжаецца ўрок? Па колькі мінут прадаўжаюцца перапынкі?

**773.** Лічыце па аднаму: адзін, два, тры і г. д. на працягу 1 мін. Да якога ліку вы паспееце палічыць?

**774.** Прасачыце па гадзінніку, колькі крокаў вы зможаце зрабіць у 1 мін., ідучы звычайным крокам?

**775.** Рака разлілася пасля ледаходу 15 сакавіка, а ўвайшла ў свае берагі праз 18 дзён. Калі яна ўвайшла ў свае берагі?

**776.** Пчалавод вынес вуллі з амшанніка на пасеку 4 красавіка; раенне пчол пачалося праз 68 дзён. У якім месяцы і якога чысла пачалося раенне пчол?

**777.** Цвіценне вішань скончылася 8 мая, прадаўжалася яно 14 дзён. Калі зацвілі вішні?

**778.** Веснавое ворыва скончылася к 8 красавіка, прадаўжалася яно 13 дзён. Калі пачалося веснавое ворыва?

**779.** Пасеў яравых у калгасе пачаўся 27 сакавіка, а скончыўся 12 красавіка. Колькі дзён прадаўжаўся пасеў яравых у калгасе?

 

780. Пшаніцу пасеялі 28 сакавіка, а пачалі жаць 1 ліпеня. Колькі дзён прайшло ад пасеву да жніва пшаніцы?

781. Палічыце, колькі дзён прадаўжаецца летні адпачынак вучняў?

782. Гадзіннік паказвае 10 гадзін раніцы. Колькі гадзін прайшло ад пачатку сутак?

783. Гадзіннік паказвае поўдзень. Колькі гадзін прайшло ад пачатку сутак?

784. Гадзіннік паказвае 3 гадзіны дня. Колькі гадзін прайшло ад пачатку сутак?

785. Гадзіннік паказвае 2 гадз. 15 мін. дня. Колькі гадзін і мінут прайшло ад пачатку сутак?

786. 1 гадзіна дня або 13 гадзін ад пачатку сутак. 2 гадзіны дня—14 гадзін ад пачатку сутак. 3 гадзіны—. . . . Скласці такую табліцу да канца сутак.

787. На вакзале вывешана такое распісанне адыходу паяздоў:

поезд № 7— 8 гадз. 15 мін.;

поезд № 31—13 гадз. 12 мін.;

поезд № 14—23 гадз. 55 мін.

Перавесці гэты час на звычайнае паказанне гадзінніка.

788. Навальніца пачалася ў 11 гадз. 30 мін. дня і прадаўжалася 45 мін. Калі скончылася навальніца?

789. Сонца ўзышло ў 5 гадз. раніцы, а зайшло праз 12 гадз. 40 мін. Калі зайшло сонца?

790. Хлопчык быў на прагулцы 2 гадз. 30 мін. і прышоў дадому ў 5 гадз. 45 мін. вечара. Калі ён пайшоў на прагулку?

791. Поезд ішоў ад першай станцыі да другой 3 гадзіны і прышоў на другую станцыю ў 1 гадз. 15 мін. дня. Калі ён вышаў з першай станцыі?

792. Прадуктовы магазін гандлюе ад 8 гадз. раніцы да 10 гадз. вечара. Колькі гадзін у суткі ён гандлюе?

793. Спектакль пачаўся ў 7 гадз. 30 мін. вечара і скончыўся ў 11 гадз. 45 мін. вечара. Колькі часу ішоў спектакль?



794. Заняткі ў школе ішлі ад 9 гадз. раніцы да 1 гадз. 45 мін. дня. Колькі часу ішлі заняткі ў школе?

795. Вучню пачатковай школы трэба спаць 9 гадз. 30 мін. Ваня кладзецца ў 9 гадз. вечара і ўстае ў 8 гадз. раніцы. На колькі больш ён спіць, чым яму трэба?

796. Палічы, колькі гадзін ты спіш у суткі.

797. Даросламу патрэбна на сон 8 гадз. А якой гадзіне трэба класціся спаць даросламу, калі яму трэба ўставаць раніцой у 7 гадз.?

798. Школьніку трэба спаць 9 гадз. 30 мін. А якой гадзіне яму трэба класціся спаць, калі ён павінен устаць у 7 гадз. раніцы?

---

# ЧАТЫРОХЗНАЧНЫЯ ЛІКІ.

## I. Нумарацыя.

**799.**



Адзінкі. Дзесяткі. Сотня. Тысяча.




Дзвесце. Трыццаць Пяць

**800.** Лічы на лічыльніках і адкладвай на ніжнім дроце шарыкі па адным да 10. Што складаюць 10 адзінак?

**801.** Лічы дзесяткамі і адкладвай на другім дроце знізу да 10 дзесяткаў. Што складаюць 10 дзесяткаў?

**802.** Лічы сотнямі і адкладвай на трэцім дроце знізу да 10 соцень.

**10 соцень складаюць тысячу.**

1 сотня—сто;
2 сотні—дзвесце;
3 сотні—трыста;
4 сотні—чатырыста;
5 соцень—пяцьсот;
6 соцень—шэсцьсот;
7 соцень—семсот;
8 соцень—восемсот;
9 соцень—дзевяцьсот;
10 соцень—тысяча.



**803.** Лічы тысячамі і адкладвай на чацвертым дроце знізу да 10 тысяч.



**Адзінкі** адкладваюцца на першым дроце лічыльнікаў. **Дзесяткі** адкладваюцца на другім дроце лічыльнікаў. **Сотні** адкладваюцца на трэцім дроце лічыльнікаў. **Тысячы** адкладваюцца на чацвертым дроце лічыльнікаў.

Назаві лік, паказаны на лічыльніках.

**804.** Перапісаць у сшытак табліцу.

| | Тысячы | Сотні | Дзесяткі | Адзінкі |
|---|---|---|---|---|
| Трыста дваццаць пяць . . . . | | 3 | 2 | 5 |
| Пяцьсот два . . . . . . . . . . . | | 5 | 0 | 2 |
| Чатырыста трыццаць . . . . . | | 4 | 3 | 0 |
| Дзве тысячы сто сорак восем | 2 | 1 | 4 | 8 |
| Пяць тысяч дзвесце шэсць . . | 5 | 2 | 0 | 6 |

Чаму ў ліку 502 на месцы **дзесяткаў** стаіць **нуль?**

Чаму ў ліку 430 стаіць **нуль** на месцы **адзінак?**

**805.** Запішыце ў вашай табліцы лічбамі:

сто сорак восем;
пяцьсот трыццаць шэсць;
чатырыста дваццаць;
шэсцьсот семдзесят;
дзевяцьсот восем;
семсот пяць;
дзвесце;
восемсот;
адну тысячу;
сем тысяч;
тры тысячы восемсот трыццаць два;
восем тысяч чатырыста шэсць;
дзевяць тысяч семсот;
пяць тысяч сорак восем;
шэсць тысяч дзевяць;
чатыры тысячы дзевяць.

Адкладзіце гэтыя лікі на лічыльніках.

